№ 37 (826) 2 кастрычніка 2013 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я Б Е Л А Р У С К А Я Г А З Е Т А

Заснаваная ў лістападзе 1906. Ад ... «Народзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады




# Не бяжы, народзец, у абменнікі

На фота: «Дажынкі» ў Жлобіне — вучэбная скварка. Рэпартаж Сяргея Гудзіліна — старонка 9.

Народзец і дэвальвацыя — старонка 2.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Хто яны — беларускія мільянеры? Топ-10

Старонка 6.

## Прамова прэзідэнта Саакашвілі ў ААН

Старонка 4.

## Хлопец другі тыдзень стаіць у метро з плакатам

Старонка 5.

## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2**.

**Праўда і крыўда**

# Не бяжы, народзец, у абменнікі

Лукашэнка загаварыў пра дэвальвацыю. Людзі ўжо смяюцца, калі нехта з высокіх чыноўнікаў пачынае пераконваць, што абясцэньвання валюты не будзе. Кажуць, гэта верны знак, што яе не мінаваць. Так перад 2009-м Лукашэнка даказваў, што рубель не страціць у цане. А памятаеце, як у 2011 шчыраваў старшыня Нацбанка Пятро Пракаповіч?

«...Калі, дапусцім, рэзкае падзенне — мы падтрымліваем сваю нацыянальную валюту, рэзкая прапанова па валюце — мы скупляем, Нацыянальны банк. Былі такія перыяды. Але сённяшні дзень, калі ў цэлым па годзе ўзяць, то мы пакуль, напэўна, мільёнаў на 150–200, я дакладна не памятаю, набылі больш валюты, чым прадалі.

Але ў апошнія месяцы, я гляджу, наш народзец пабег у абменныя пункты. Ну, бяжыце. Бяжыце!»

І не першы раз, калі ў краіне пачынаюцца эканамічныя складанасці, кіраўнік краіны пачынае абвінавачваць народ. У той самы 2011-ы Лукашэнка звязаў дэвальвацыю з тым, што людзі кінуліся купляць на Захадзе машыны перад павышэннем мыта на аўтамабілі.

У інтэрнэце жартуюць, калі адбудзецца новая дэвальвацыя, то народу давядзецца сысці ў адстаўку.

Яшчэ адзін пункт. Зняважлівае слова «народзец», якое ўжыў Лукашэнка. Так называў прыдуманых істотаў хобітаў пісьменнік Толкін. Ці мае права кіраўнік дзяржавы гэтак выказвацца аб сваім народзе, ці мог бы дазволіць такія словы нехта з еўрапейскіх палітыкаў?

«Гэта абраза нацыянальнай годнасці беларускага народа, — мяркуе намеснік старшыні Партыі БНФ Ігар Лялькоў. — Такім чынам аўтар гэтага ганебнага выказвання прадэманстраваў, што насамрэч ён беларусаў не паважае».

Пакуль жа звяртае ўвагу, што курс еўра і даляра амаль штодня абнаўляць гістарычны максімум. Ад пачатку года беларускі рубель абясцэніўся адносна даляра на 6%, адносна еўра — на 9%. Цэны ў Беларусі растуць найбольш у Еўропе. І па дэвальвацыі мы другое дзесяцігоддзе — у лідарах.

«Я, сыночак, у далярах на смерць трымаю, бо, калі ў рублях паложыш, то прападуць мае грошы», — сказала мне адна бабуля ў Барысаўскім раёне.

ДПрэзідэнт, які такую палітыку праводзіць, не мае права ганіць за гэта людзей. Яны мяняюць свае потам зробленыя рублі з заробкаў і пенсій на даляры, каб мець хоць нейкую ўпэўненасць у заўтрашнім дні.

**Зміцер Панкавец**




# Волат «БелАЗ»

**Беларускі канцэрн стварыў самы вялікі ў свеце кар'ерны самазвал.**

Канцэрн «БелАЗ» прэзентаваў свой новы кар'ерны самазвал 75710 грузапад'ёмнасцю 450 тон. Ён стаў самым вялікім самазвалам у свеце — на заводзе ўжо рыхтуюць заяву для «Кнігі рэкордаў Гінэса».

Паводле заяваў вытворцы, «БелАЗ-75710» важыць 360 тон. Вага загружанай машыны складае 810 тон. Каб размеркаваць такую вагу, новы самазвал мае ажно восем гіганцкіх колаў з шынамі Michelin дыяметрам 4,03 метра: па два спараныя колы на вось.

Цікавая асаблівасць самазвала — абедзве восі паваротныя, што робіць 20-метровы грузавік надзвычай манеўраным. Два дызельныя рухавікі агульным аб'ёмам 130 літраў развіваюць магутнасць у 4600 конскіх сілаў. Яны рухаюць электрагенератар, што сілкуе электрычную трансмісію Siemens.

У самазвале ўсе элементы надзвычай вялікіх памераў. Толькі два паліўныя бакі могуць змяшчаць па 2800 літраў кожны. Геаметрычны аб'ём кузава складае 167 м³ без «горкі» і 269 м³ з ёй. На аўтамабіль усталяваныя і адмысловыя сістэмы пажаратушэння, апавяшчэння пра блізкасць да высакавольтных ліній і відэаназірання.

Дадатковая інфармацыя стала вядомай падчас прэзентацыі машыны. Першы намеснік генеральнага дырэктара «БелАЗа» Алег Сціпук расказаў, што распрацоўка і стварэнне самазвала заняла 2 гады, а ў пастаўках трох аўтагігантаў зацікаўлены Кемераўскі рэгіён Расіі.

Да з'яўлення мадэлі 75710 самым вялікім самазвалам на планеце быў Liebherr-T282B, здольны перавезці 363 тоны. У лінейцы «БелАЗ» таксама ёсць 360- і 320-тонныя машыны.

**Кірыла Хілько**

Продаж самазвалаў у студзені-ліпені 2013 прынёс Беларусі $150 мільёнаў. За гэты час было прададзена 348 такіх машын. Асноўнымі купцамі машын была Расія (268 самазвалаў), Казахстан (25), Украіна (13) і КНДР (5).

Беларускія трактары і цягачы карыстаюцца яшчэ большым попытам. У студзені-ліпені прададзена прадукцыі на $633 мільёны, найперш у Расію, Украіну, Казахстан, Венгрыю і Пакістан.

# Вадзім Гігін стаў яшчэ і тэлевядучым

**Праграма «Пазіцыя» ідзе па панядзелках замест «Выбару».**

Тэлеканал АНТ пачаў тэлевізійны сезон з новага токшоу «Пазіцыя». Ні студыяй, ні антуражам яно не адрозніваецца ад ранейшых панядзелкавых «грамадска-палітычных» праграм на АНТ.

Ток-шоу «Выбар» ішло ў 2003—2010, ягоным апошнім вядучым быў Сяргей Дарафееў. Пасля скандальнага выпуску ў ноч прэзідэнцкіх выбараў праграма была закрытая, а пасля заменена на няўцямны «Адкрыты фармат».

І вось прэм'ера. Увагі заслугоўвае вядучы. Гэта тэледэбют ідэолага Вадзіма Гігіна. Першую перадачу прысвяцілі «нацыянальнай годнасці» і яе абароне падчас канфлікту з «Уралкаліем».

У эфір паклікалі намесніка старшыні ЛДПБ Гайдукевіча-малодшага, намесніка старшыні Мінгарвыканкама Ігара Карпенку, прэс-сакратара МЗС Андрэя Савіных, а таксама эканаміста Яраслава Раманчука.

Беларуская мова прагучала ў эфіры толькі аднойчы — у вулічным апытанні тэлевізійшчыкі выпадкова зlавілі ў кадр паэта Андрэя Хадановіча.



**Ягор Марціновіч**

## Сціслa

**Адкрыюцца дзіцячыя дамы для пажылых людзей**

Да канца года ў тэрытарыяльных цэнтрах сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Маскоўскага і Першамайскага раёнаў Мінска адкрыюць два аддзяленні дзённага знаходжання для пажылых людзей на 50 месцаў. Пажылых людзей, растлумачыла Дудка, «можна будзе пакінуць у аддзяленні дзённага знаходжання, як у дзіцячым садку, а вечарам забраць дамоў».

**На «Акадэміі навук» распылілі газ**

Як паведамляе сталічная міліцыя, у падземным пераходзе адбылося затрыманне футбольнага фаната, які клеіў улёткі. Ён і націснуў на балончык з пярцовым газам.

**«Будзьме» — 5 гадоў**

За гэты час супольнымі намаганнямі літаратурныя і музычныя сустрэчы, фэсты і канцэрты, вандроўкі і лекцыі, кірмашы праектаў і ток-шоу, што ладзяцца па ўсёй краіне, ахапілі больш за 800 населеных пунктаў, а іх агульная колькасць перавысіла 9 000.

**Памёр прафесар Мікола Крукоўскі**

30 верасня на 90-м годзе жыцця ў Бальніцы хуткай дапамогі ў Мінску памёр Мікола Ігнатавіч Крукоўскі, доктар філасофскіх навук, прафесар, ветэран вайны, аўтар шматлікіх манаграфій і артыкулаў па філасофіі і культуралогіі.

**ЛМ**

## Апытанне на nn.by

**Як па-Вашаму, дэвальвацыя будзе?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 552 | 43% |
| Не | 20 | 2% |
| Яна ўжо адбываецца | 603 | 47% |
| Свядомыя, не плявузгайце! | 112 | 9% |

Усяго прагаласавала 1287.

**Самае чытанае на nn.by за 25 верасня — 1 кастрычніка 2013**

1 «Алена ў суботу адсвяткавала 45-годдзе, а ў нядзелю загінула»

2 Лукашэнка: Наш народзец пабег у абменныя пункты. Ну, бяжыце — відэа

3 У Мінску зарэзалі 13-гадовага школьніка

4 Тэкст прамовы Саакашвілі ў ААН, у адказ на якую расійская дэлегацыя выйшла з залы

5 Філіп Кіркораў дасціпна адказаў тролям ды ўзарваў Інтэрнэт — відэа

6 Адкуль на вітражы самага старога храма Беларусі НКВДэшная машына? — фота

7 Брусель гатовы хоць зараз знізіць цану шэнгенскай візы для беларусаў

8 Лукашэнка вяртаецца ў Беларусь разам з Пуціным

9 «Ляпісы» прэзентавалі новы кліп на беларускай мове — відэа

10 За адмову слухаць афіцыйны гімн настаўніца збіла школьніцу ў Баранавічах

**Цяпер падпісацца можна і праз банкаматы, і праз інтэрнэт-банкінг!**

Рэдакцыйную падпіску можна аплаціць і з банкаўскай карткі, праз банкаматы, праз інтэрнэт-банкінг, плацежныя сістэмы. Шукайце «Нашу Ніву» ў раздзеле «СМІ» сістэмы ЕРІП. Гэта надта зручна, хутка, выгадна!

Больш інфармацыі знойдзеце на сайце NN.BY (у правым верхнім кутку).

## На другое паўгоддзе яшчэ можна падпісацца! Падпішыцеся самі, падпішыце блізкіх!

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15750 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18911 руб./месяц.

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў. Па пытаннях распаўсюду звяртайцеся: (017) 284-73-29, (029) 804-12-31, (029) 681-77-91, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828 Адд. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Частае пытанне: як запаўняць графу «рахунак на аплату»**

Пры аплаце ў банку ці на пошце, **бывае, узнікаюць пытанні пра новую графу «рахунак на аплату», «счет на оплату».** Кажыце, каб яе проста прапусцілі. Гэты нумар ствараецца толькі пры аплаце праз сістэму ЕРІП (інтэрнэтныя плацежныя сістэмы, пры аплаце праз інтэрнэт-банкінг). Пры аплаце з пошты, банка, як звычайна, ён не патрэбны. Кажыце, што вы плаціце за газету накладзеным плацяжом, а не праз ЕРІП.

# Аркадзь Мошэс: **Расіі важнейшая Беларусь як вайсковы саюзнік, чым Баўмгертнер**

Гендырэктара «Уралкалія» Уладзіслава Баўмгертнера так і не вызвалілі. Але і ў СІЗА не пакінулі.

У дзень прыезду Уладзіміра Пуціна ў Беларусь на вайсковыя вучэнні «Захад-2013» было прынятае палавінчатае рашэнне — перавесці расійскага менеджара з турмы на хатні арышт. Для гэтага нават адмысловую кватэру знялі.

Кватэра трохпакаёвая. Разам з Баўмгертнерам там знаходзіцца ягоная маці, а таксама чатыры аператыўнікі. Магчыма, арыштанту нават дазволяць прагулкі на свежым паветры (Уладзіміру Някляеву і Ірыне Халіп не дазвалялі).

На «Дажынках» у Жлобіне Аляксандр Лукашэнка сказаў, што Баўмгертнер абавязаны зменай меры ўтрымання толькі сваёй маці. Чамусьці бацькам беларускіх палітвязняў такія льготы не прадстаўляюцца. Праўда, вызвалілі кіраўніка «Уралкалія» не ў дзень прыезду маці, што прыбыла ў Мінск месяц назад, а ў дзень візіту Пуціна.

Аб сітуацыі з Уладзіславам Баўмгертнерам і расійска-беларускіх адносінах мы пагутарылі з экспертам Фінскага інстытута замежных справаў Аркадзем Мошэсам.

## Рэакцыя Расіі павінна быць больш гучнай, жорсткай, а не такой кулуарнай

**«Наша Ніва»: Памочнік прэзідэнта Расіі Юрый Ушакоў сказаў, што сітуацыя са зняволеннем гендырэктара «Уралкалія» Уладзіслава Баўмгертнера «зацягнулася». А на Ваш погляд, ці зацягнулася?**

**Аркадзь Мошэс:** Мне здаецца, што сітуацыю можна было назваць «зацягнутай» ужо на другую гадзіну пасля арышту спадара Баўмгертнера. Рэакцыя Расіі, краіны якая прэтэндуе на сусветнае лідарства, у гэтым выпадку павінна быць больш гучнай, жорсткай, а не такой кулуарнай. Гэты арышт абсалютна непрымальны. Я магу толькі згадзіцца з некаторымі экспертамі, якія кажуць, што за расійскіх грамадзян, якія апынаюцца ў амерыканскіх турмах, змагаюцца куды больш энергічна.

**«НН»: За апошні тыдзень Лукашэнка і Пуцін сустракаліся двойчы. Спачатку на саміце прэзідэнтаў АДКБ у Сочы, а пасля на вучэннях «Захад-2013». Пуцін не змог паўплываць на Лукашэнку, каб Баўмгертнера выпусцілі на волю?**

**АМ:** З тых паведамленняў, што даходзілі з Сочы, не было нават канкрэтна сказана, ці вяліся перамовы аб вызваленні. Гаварылася толькі, што кіраўнікі дзяржаў «коратка» абмеркавалі гэтую тэму. Мне здаецца, што для Расіі больш важна сёння дэманстраваць саюзніцкія адносіны з Беларуссю ў вайсковай сферы, а не дамагацца вызваленне не самага набліжанага да Крамля менеджара.



Аляксандр Лукашэнка, Уладзімір Пуцін і міністр абароны Расіі Сяргей Шайгу на вучэннях у Гожы (Гродзенскі раён). Расійская газета «Камерсант» назвала кіраўніка Беларусі «стомленым».

**«НН»: Дык а ці не б'е гэты канфлікт па прэстыжы Расіі ў свеце?**

**АМ:** Прэстыж? Па прэстыжы б'юць паводзіны, якія ў корані мяняюць рэпутацыю. Іншых жа паводзін ніхто і не чакаў. У Расіі таксама арыштоўваць бізнэсмэнаў.

**«НН»: Навошта гэты канфлікт Лукашэнку?**

**АМ:** Найперш, гэта нагода лішні раз падкрэсліць, што ён гаспадар у доме, а не Расія. Гэта выдатна можна абыграць у інфармацыйным полі як антыалігархічную, антыкарупцыйную кампанію. Тыя дзялянкі, якія Лукашэнка здаўна за сабой забіў. Вядома, ёсць тут і матывацыі эканамічнага характару. Спроба нагадаць Расіі, каб яна больш уважліва рэагавала на эканамічныя патрэбы суседкі.

**«НН»: Чым, на Ваш погляд, скончыцца гэты канфлікт?**

**АМ:** Думаю, што справу Уладзіслава Баўмгертнера ўсё ж спусцяць на тармазах. Калі гендырэктар «Уралкалія» пакіне тэрыторыю Беларусі і справу перададуць расійскім праваахоўнікам, то пра яе паспяхова забудуцца. Наўрад ці Лукашэнку ўдасца выйграць нейкія эканамічныя выгоды з усяго гэтага. Разам з тым, базавыя падыходы ў пытанні субсідзіравання Беларусі не будуць зменены. Увогуле, справа не будзе нейкай лёсавызначальнай ці паваротнай у беларуска-расійскіх адносінах.

Гутарыў Зміцер Панкавец

**Фотафакт**

**Нават свіння галовы супраць**

Акцыю на плошчы Якуба Коласа ў Мінску правялі прадстаўнікі моладзевай арганізацыі Zmena. Хлопцы прынеслі свіныя галовы, узброілі іх плакатамі, дзе было напісана: «Нават я не галасаваў за Луку», «Пошліна? Пошлі на...», «Чаму чыноўнікам паднялі заробкі, а дактарам — не?». У выніку лідар «зменаўцаў» Павел Вінаградаў быў асуджаны на 15 сутак арышту на Акрэсціна.




**Цытата**

**Лукашэнка адмовіўся ад пошліны ў 100 даляраў**

«Вось ляпнуў сабе на шкоду, напэўна. Хоць я гэтага не баюся... Кажуць: вы выпускайце, як на Захадзе, — мы будзем гэтыя шмоткі купляць у Беларусі. Па-мойму, нашы нядрэнна сёння гандлююць і выпускаюць, і можна нармальна апрануцца... Добра, не будзем з цябе браць сто даляраў, але будзеш увозіць шмоткі, як у іншых дзяржавах, — заплоціш пошліну. Гэта ж нармальна, цывілізавана», — адзначыў Лукашэнка, адказваючы на пытанні журналістаў на «Дажынках» у Жлобіне.

# Брусэль гатовы хоць зараз знізіць цану шэнгенскай візы для беларусаў

Улады Беларусі не спяшаюцца весці перамовы з Еўропай на гэту тэму, мяркуюць эксперты.

Пра гэта заявіў кіраўнік дэпартамента Расеі, «Усходняга партнёрства», Цэнтральнай Азіі, рэгіянальнага супрацоўніцтва і АБСЕ ў Еўрапейскай службе знешніх дзеянняў Гунар Віганд. Высокі чыноўнік знаходзіўся 24–25 верасня з візітам у Мінску. Ён правёў перамовы з прадстаўнікамі МЗС і дэмакратычнай супольнасці Беларусі.

Андрэй Дзмітрыеў з «Гавары праўду» — адзін з тых, хто непасрэдна размаўляў з брусэльскім чыноўнікам: «Спадар Віганд сказаў, што на сённяшні дзень Еўрасаюз адкрыты для супрацы з Беларуссю.

Мы размаўлялі пра цану шэнгенскіх візаў. І ён сказаў, што знізіць іх кошт можна імгненна, як толькі беларускі бок падпіша дакументы, звязаныя з такой прапановай Еўрасаюза. І тады візы будуць каштаваць удвая танней. І гэта будзе выгадна ўсім — і беларусам, і еўрапейцам».

Андрэй Дзмітрыеў сказаў, што ўдзельнікі сустрэчы прапаноўвалі, каб Брусэль, не чакаючы згоды беларускіх уладаў, зменшыў кошт уязных дакументаў у аднабаковым парадку.

Аднак спадар Віганд адказаў, што такія рэчы немагчыма рабіць без згоды афіцыйнага Мінска.

«І гэта сапраўды так», — кажа «Свабодзе» дырэктарка офіса «За дэмакратычную Беларусь» у Брусэлі Вольга Стужынская, якая даўно займаецца гэтай праблемай. — Еўракамісія ўжо амаль два гады таму даслала беларускім уладам запрашэнне пачаць перамовы пра візавую фасілітацыю і рэадмісію. Таму што кошт візы можа быць зніжаны да 35 з цяперашніх 60 еўра толькі пры ўмове, што беларускі бок пагодзіцца на гэты дыялог».

Паводле радыё «Свабода»

**Сцісла**

**Бяляцкі атрымаў прэмію Гаўла**

Прэзідэнт Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы Жан-Клод Міньён абвясціў Алеся Бяляцкага, які асуджаны на 4,5 года, лаўрэатам прэміі імя Вацлава Гаўла. Памер узнагароды — 60 тысяч еўра. Прэмію атрымлівала жонка Алеся Наталля Пінчук.

**Макей: Беларусь і Куба будуюць моцныя дзяржавы**

Міністр замежных справаў Уладзімір Макей падчас выступу на Генеральнай Асамблеі ААН звярнуў увагу на недапушчальнасць прымянення санкцый у адносінах да такіх краінаў, як Беларусь альбо Куба, народы якіх імкнуцца пабудаваць моцную дзяржаву. Выступаў Макей па-расейску.

**Лукашэнка ляціць у Казахстан**

Візіт адбудзецца 3—4 кастрычніка. На перамовах Назарбаева і Лукашэнкі будуць закранутыя пытанні паглыблення двухбаковага супрацоўніцтва ў гандлёва-эканамічнай і індустрыяльна-інавацыйнай сферах, а таксама прамысловай кааперацыі ў АПК.

**У Аўстрыі перамаглі сацыял-дэмакраты**

Сацыял-дэмакраты і кансерватары атрымалі большасць месцаў у аўстрыйскім парламенце. Аднак абедзве партыі згубілі ў папулярнасці ў параўнанні з мінулымі выбарамі. Затое свой найлепшы вынік паказала крайняя правая Аўстрыйская партыя свабоды — 21%.

ЗП

# Імперыя абрынецца

Прамова прэзідэнта Саакашвілі ў ААН

Прэзідэнт Грузіі Міхаіл Саакашвілі выступіў са сваёй апошняй перад сыходам з пасады прамовай на Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Ёрку. Адыходзячы прэзідэнт распавёў пра імперскія амбіцыі Масквы і хуткі сыход з Крамля Уладзіміра Пуціна. Расійская дэлегацыя дэманстратыўна пакінула залу пасяджэнняў. А пасля назвала яе «бредовыми измышлениями».

Прапануем вашай увазе тэкст прамовы. Яна ўяўляе сабой своеасаблівы палітычны запавет прэзідэнта Саакашвілі, скіраваны перадусім да сваіх суайчыннікаў, але таксама да народаў Усходняй Еўропы. Прапануем вам скарочаны варыянт выступу.

### Паважаныя дэлегаты, шаноўнае спадарства!

Цяпер, калі я тут выступаю перад вамі, тыя краіны Усходняй Еўропы, якія імкнуцца стаць сябрамі еўрапейскай сям'і, адчуваюць ціск і пагрозы.

Арменію загналі ў кут і вымусілі ўступіць у Мытны саюз. Малдове аб'явілі блакаду. Ідуць нападкі на Украіну, Азербайджан сутыкаецца з асаблівым ціскам, Грузія акупаваная...

Чаму?

Былая імперыя спрабуе вярнуць згубленыя межы. Хаця слова «мяжа» тут недарэчнае, бо Расійская імперыя, Савецкі Саюз, РФ або Еўразійскі саюз ніколі не мелі межаў — у іх былі толькі ўскраіны.

Я сёння кажу ад імя менавіта гэтых «ускраін».

У адрозненне ад большасці дзяржаў, Расійская Федэрацыя не зацікаўленая ў існаванні вакол стабільных дзяржаў. Вечны хаос і беспарадак у суседніх краінах — вось да чаго імкнецца Крэмль.

Ён катэгарычна адмаўляе ідэю моцных урадаў у Грузіі, Украіне і Малдове, нават такіх, якія будуць па-сяброўску настроеныя да яго інтарэсаў.

### Падзяляй і ўладаруй XXI стагоддзя

Думаеце, Уладзімір Пуцін хоча, каб Арменія канчаткова перамагла Азербайджан? Не, бо тады Арменія стала б занадта моцнай і незалежнай.

Можа, наадварот, Масква жадае перамогі Баку над Ерэванам? Вядома ж, не. Адраджэнне мадэрнізаванага Азербайджана будзе кашмарам для расійскіх лідараў.

Не, яны не жадаюць перамогі ні аднаго з бакоў. Іх мэтай з'яўляецца сам канфлікт, бо гэта забяспечвае залежнасць абедзвюх краін і перашкаджае іх еўраінтэграцыі.

Як вы лічыце, ці абумовіла паражэнне на выбарах сілаў Аранжавай рэвалюцыі змену стаўлення Масквы да Украіны?

Наадварот. Увесь час ідуць нападкі на ўрад Януковіча. Перад запланаваным у Вільні самітам Усходняга партнёрства Расія распачала супраць Украіны гандлёвую вайну, а расійскія службовыя асобы адкрыта гавораць пра перспектывы развалу гэтай дзяржавы.

Як вы лічыце, ці гатовы Крэмль разгледзець пытанне дэакупацыі Абхазіі і Паўднёвай Асеціі сёння, калі ўрад ўжо змяніўся ў Тбілісі? Зусім не!

### Нічога асабістага

Мой папярэднік, прэзідэнт Шэварнадзэ, быў выхадцам з савецкай наменклатуры. Ён вярнуўся да ўлады ў 90-х гадах шляхам ваеннага перавароту пры прамой падтрымцы Расіі. У адрозненне ад мяне, ён быў вядомы сваімі савецкімі дыпламатычнымі навыкамі. Нягледзячы на ўсё гэта, Расія стала спрабавала падарваць яго ўладу і некалькі разоў нават ладзіла замахі на ягонае жыццё.

Пытанне не ў Гамсахурдзіі, Шэварнадзэ, Саакашвілі або Іванішвілі. Імёны не маюць вялікага значэння. Пытанне ў будучыні грузінскай дзяржаўнасці.

Чаму? Таму, што сённяшнія кіраўнікі Расіі выдатна ведаюць, што як толькі буду пабудаваныя моцныя інстытуты ва Украіне, Грузіі, Малдове ці яшчэ недзе, гэтыя інстытуты адлюструюць і ўзмоцняць жаданне народаў гэтых краін быць сапраўды незалежнымі і часткай еўрапейскай сям'і.

Большасць рускіх задавалася пытаннем — калі вядомая ў адзін час карупцыяй, крыміналам і мафіяй, расчлененая Грузія змагла дасягнуць поспеху, чаму не можа зрабіць гэтага сама Расея? Гэта быў ідэалагічна небяспечны праект.

Менавіта таму палічылі грузінскі вопыт паспяховых рэформаў вірусам, які мог «інфікаваць» увесь былы Савецкі Саюз; вірусам, які неабходна выкараніць любымі даступнымі сродкамі. І гэта тады, калі мы, некалі самая карумпаваная краіна, сталі найменш карумпаванай краінай у Еўропе і найлепшым месцам для вядзення бізнесу.

Менавіта таму супраць грузінскага народа ўвялі эмбарга, навязалі вайну.

### Еўразійскі саюз — турма народаў

Накіраваныя супраць гэтага прагрэсу намаганні маюць сваю назву: Еўразійскі саюз.

Мне становіцца дрэнна, калі афіцэр КДБ Уладзімір Пуцін чытае свету лекцыю аб міры, каштоўнасцях і дэмакратыі. Якое права таму вучыць мае дыктатар апошняй імперыі?

Еўразійскі саюз створаны як альтэрнатыва Еўрапейскаму Саюзу, і Уладзімір Пуцін разглядае Еўразійскі саюз як галоўны праект свайго прэзідэнцкага тэрміну.

Еўразійскі саюз з'яўляецца нашым нядаўнім мінулым і будучыняй, якую нам рыхтуюць у Маскве былыя афіцэры КДБ. У процівагу гэтаму нашы традыцыі і шматвекавыя імкненні вядуць нас у зусім іншы свет, які называецца Еўропай.

І еўрапейскія грамадствы далёкія ад дасканаласці. І там сустракаецца страх, сумненні, зло і нават нянавісць. Але там мерытакратыя [калі сацыяльнае становішча залежыць ад заслуг чалавека, а не ад сувязяў — Рэд.] стаіць вышэй за непатызм, а ў падмурку грамадскага жыцця ляжыць цярпімасць.

Цяперашнія апаненты з'яўляюцца будучымі міністрамі, якіх ніхто не саджае ў турму і не распраўляецца з імі фізічна.

### Гей-стратэгія Крамля

Калі паглядзець так, то выбар для народаў Усходняй Еўропы настолькі відавочны, што некаторыя крамлёўскія стратэгі вырашылі наогул адмяніць праўду і распаўсюджваць з большай актыўнасцю ўсякую хлусню ў Грузіі, Украіне, Малдове ці ў іншых месцах.

У нашых краінах яны з дапамогай сваёй пятай калоны ўкараняюць стэрэатып, у рамках якога Еўрасаюз атаесамляецца з разбурэннем сямейных каштоўнасцяў, з разбуральнікамі нацыянальных традыцый і навязваннем іншай сэксуальнай арыентацыі.

Дзіўна, але ў апошнія месяцы ў Кіеве, Тбілісі або Кішынёве мы чуем адну і тую ж выродлівую мантру, напісаную ў Маскве.

Чуем, што нібыта нашы традыцыі руйнуюцца пад ціскам Захаду і што хрысціянскія святы будуць замененыя гей-парадамі.

Няўжо мы настолькі наіўныя, каб паверыць у гэтуюману?

### Фальшывыя ноты аб праваслаўным братэрстве

Калі мы чуем напетыя расейскімі імперыялістамі фальшывыя ноты аб праваслаўным братэрстве, чаму мы не можам прыгадаць галасы забітага імі ж патрыярха Кірыёна або замучанага каталікос-патрыярха Грузіі Амбросія?

Няўжо мы так аглухлі, што не жадаем пачуць галасы забітых імі епіскапаў і святароў? Няўжо мы так неадукаваныя, што не памятаем, хто ператвараў нашы храмы ў склады і сцёр нашы святыя фрэскі?

Мы павінны ведаць гісторыю і зразумець, што старыя імперскі прынцып «падзяляй і ўладаруй» сёння выкарыстоўваецца так жа, як і два стагоддзі таму.

### Тры кіты ЕС

Еўрапейскі саюз — самы вялікі палітычны поспех апошніх дзесяцігоддзяў — заснаваны на трох кітах.

Першае: адмаўленне радыкальнага нацыяналізму, які двойчы давёў Еўропу да краю калектыўнага самагубства ў выглядзе дзвюх сусветных войнаў і нацысцкіх жахаў.

Другое: адмаўленне камунізму, пагроза распаўсюджвання якога існавала на кантыненце.

Трэцяе: адмаўленне імперыялізму і каланіялізму.

Для прыняцця гэтага трэцяга адмаўлення Брытанскай і Французскай імперыям спатрэбіўся час. Але адмова ад калоній адбылася цаной мадэрнізацыі і развіцця дэмакратыі.

Еўразійскі ж саюз заснаваны на працілеглых пастулатах.

Менавіта таму ўступіць у Еўразійскі саюз вельмі лёгка. Не існуе палітычных, сацыяльных ці эканамічных крытэраў. Стаць калоніяй надзвычай проста. Пасіўнасць і ніякай самадзейнасці — вось адзіны крытэр.

### Еўразійскі саюз зазнае крах

Калі паглядзець на гісторыю, Брытанія і Францыя страцілі калоніі не толькі таму, што калоніі змагаліся за незалежнасць, але і таму, што ў Парыжы і Лондане не верылі ў імперы. Менавіта гэта адбываецца цяпер у Расіі.

Гэтае адмаўленне, у першую чаргу, выяўляецца ў цынічным стаўленні да гэтага праекта Пуціна з боку расійскай эліты. Менавіта тыя не вераць у гэты праект, хто павінен яму служыць.

Еўразійскі саюз зазнае крах.

Расія сфармуецца як нацыянальная дзяржава, у якой замест ускраін будуць сапраўдныя межы. Менавіта пасля гэтага яна пачне фарміраваць стабільныя адносіны з суседзямі. Гэта адбудзецца хутчэй, чым многія людзі думаюць.

Ад гэтага атрымаюць выгаду як тыя, што знаходзяцца на ўскраіне краіны, але больш за ўсё — рускі народ.

Гэта адбудзецца таму, што газ не можа замяніць эканамічную мадэрнізацыю. Гэта адбудзецца з-за карупцыі і несправядлівасці.

Гэта адбудзецца таму, што цэлыя рэгіёны адчуваюць адчужэнне з-за дыскрымінацыі і гвалту, з-за таго, што Чачня, Інгушэція, Дагестан, Татарстан або іншыя месцы жывуць пад такім прыгнётам, што не адчуваюць сябе ўдзельнікамі аднаго з Масквой праекта. Праз некалькі гадоў Уладзіміра Пуціна не будзе ні ў Крамлі, ні ў расійскай палітыцы.

### Сіла Усходняга партнёрства

У мінулым некаторыя лідары, да прыкладу, Юзэф Пілсудскі, разумелі, што свабода адной дзяржавы залежыць і ад свабоды паняволеных нацый, аднак тады не было такой вялікай сілы, якая добра разумее ўласны стратэгічны інтарэс — захаваць наш суверэнітэт. Гэтая сіла цяпер ёсць — у выглядзе ЕС.

Сёння, незадоўга да віленскага саміта Усходняга партнёрства, хачу паўтарыць свой заклік, які я некалькі разоў рабіў у апошнія гады.

Ва Усходняе партнёрства нам варта ўкласці больш намаганняў. Бо для ўсіх нас рэформы азначаюць дзяржаўнасць і незалежнасць.

Кацярына II гэта выдатна разумела. Калі Польшча пачала праводзіць рэформы на ўзор Францыі і Брытаніі, яна напісала доўгі таемны ліст прускаму каралю Фрыдрыху Вялікаму. Гэты ліст і сёння застаецца адным з ясных апісанняў прыроды і стратэгіі імперыялістычнага праекта.

Паводле ліста, рэформы, што праводзяцца ў Польшчы, ствараюць пагрозу як Расеі, так і Прусіі, бо яны ператварылі б Польшчу ў моцную дзяржаву. Таму іх было неабходна спыніць. Трэба было напасці на Польшчу, падзяліць яе, перш чым рэформы яе ўзмоцняць.

У гэтым лісце многае будзе пазнавальна з падзей апошняга дзесяцігоддзя.

### Адзінства народаў расійскага памежжа

Шаноўнае спадарства, Усходняй Еўропе, у тым ліку і падзеленаму Каўказу, патрэбна адзінства.

Варожасці трэба пакласці канец. Неабходна быць гатовымі да часу, калі імперыя абрынецца, каб хутка пераадолець спадчыну нянавісці. Мы, грамадзяне Грузіі, павінны з распасцёртымі абдымкамі прыняць назад нашых абхазскіх і асецінскіх суграмадзян не як нашых ворагаў, а як нашых братоў і сясцёр. Бо гэты час надыдзе значна хутчэй, чым мы думаем.

### Развітальныя словы

У канцы свайго другога прэзідэнцкага тэрміну хачу пахваліцца дасягненнямі Грузіі за гэты перыяд.

Мы выцягнулі Грузію з цемры, у прамым сэнсе слова. Мы выгналі банды. Мы наблізілі нашу краіну да еўрапейскай мары больш, чым калі-небудзь.

Мы зрабілі шмат добрага. Але, канечне, за нешта мы заплацілі высокую цану. Мы дапускалі і памылкі. Часам мы пайшлі задалёка, а часам — недастаткова далёка.

Я цалкам бяру адказнасць за ўсе памылкі. Прымаю блізка да сэрца меркаванне ўсіх тых людзей, якія лічаць, што атрымалі недастаткова ад праведзенай намі працы, і тых людзей, якія лічаць сябе ахвярамі нашых радыкальных метадаў.

Хачу звярнуцца да ўсіх грамадзян Грузіі — тых, хто падтрымліваў наш праект, палітыку і партыю, і да тых, хто не прымаў іх: я ганаруся вашай мужнасцю, я схіляюся перад вашымі ахвярамі і высілкамі. Вы заўсёды павінны заставацца нацыяй, якую аб'ядноўвае любоў да свабоды і годнасці.

Наш шлях рэгіянальнага адзінства, свабоды і еўрапейскай інтэграцыі яшчэ далёкі ад завяршэння, і для яго канчатковага поспеху я маю намер працаваць не пакладаючы рук.

Праз некалькі гадоў Уладзіміра Пуціна не будзе ні ў Крамлі, ні ў расійскай палітыцы



# Хлопец другі тыдзень стаіць у метро з плакатам «Здыму кватэру»

Мінгарвыканкам адмовіў яму ў дазволе на «адзіночнае пікетаванне».

Фота гэтага хлопца сабрала сотні лайкаў і каментаў ва «Укантакце». Адныя ганяць, другія спачуваюць, трэція проста рагочуць: маўляў, двайнік Макса Каржа шукае хату. Але кватэрнае пытанне дагэтуль не вырашанае.

«Мяне ўжо паў-Мінска ведае. Але эфект адваротны: мне не прапануюць, а, наадварот, пытаюцца, дзе б зняць пакой ці кватэру», — кажа хлопец.

Ужо другі тыдзень Аляксандр Кіклевіч стаіць з плакатам «Здыму кватэру» каля выхадаў з метро ды ў іншых людных месцах горада.

Мы яго пабачылі на станцыі метро «Пятроўшчына». Модная бейсболка, куртка, заплечнік — няйначай няшчасны студэнт, якому не далі інтэрнат.

Але ВНУ хлопец скончыў яшчэ летась. Цяпер у яго свой бізнэс. Вырабляе фільтры ад пылу для камп'ютараў па ўласнай запатэнтаванай тэхналогіі. Вытворчасць знаходзіцца ў Слоніме, на радзіме хлопца. А кліенты — у Мінску. Таму трэба тут жыллё.

Пакуль што здымае за $220 двухпакаёўку ў Серабранцы разам з сябрам. Месяц назад гаспадар папрасіў вызваліць кватэру, бо з замежжа вяртаецца сваяк.

Спачатку шукаў жыллё праз інтэрнэт. Але калі там і з'яўлялася танная прапанова, то яе адразу ж забіралі з перадаплатай на паўгода наперад.

Пасля развешваў абвесткі, аклеіў каля ста пад'ездаў. Вынік — адзін званок, і той з агенцтва. Нарэшце вырашыў стаць з шыльдай у людным месцы.

### Бюракратыя ў дзеянні

У пошуку кватэры «ўжывую» Аляксандр бачыць свае плюсы: «Да мяне падыходзіць гаспадар, ён бачыць, хто будзе здымаць яго кватэру. А я бачу адразу, што з сябе ўяўляе ён».

Але ёсць і мінусы. Сярод іх непазбежныя праблемы з праваахоўнікамі. «На «Каменнай Горцы» міліцыянеры запатрабавалі паказаць дазвол ад Мінгарвыканкама на рэкламу. Я патлумачыў, што гэта не рэклама, а аб'ява. Пасля мне сказалі, каб не стаяў ля выхада з метро, бо перашкаджаю людзям. Я прапанаваў адысціся да сцяны. Але ўсё адно пагражалі затрымаць...»

«Ёсць месцы, дзе міліцыя не ганяе, — працягвае ён. — На адной станцыі міліцыянер падышоў і прапанаваў мне здымаць у яго пакой!»

Пасля некалькіх размоваў з людзьмі ў форме законапаслухмяны Аляксандр накіраваўся ў Мінгарвыканкам.

«Я хацеў узяць дазвол на тое, каб стаяць з шыльдай у метро. Але дакумент мне не далі. Крыху пажартавалі з мяне і сказалі, што нельга — і ўсё».

З Мінгарвыканкама хлопца адправілі ў метрапалітэн. У адным з кабінетаў яму заявілі: «І правільна, што цябе ганяе міліцыя». Маўляў, раптам ты стаіш з шыльдай «здыму кватэру», а людзям прапануеш нешта іншае — дзяўчат, наркотыкі.




### «Будзе праца — куплю кватэру»

Больш чым за тыдзень «адзіночнага пікетавання» жыллё сабе хлопец так і не выбраў, хоць прапаноў было багата. У першы ж дзень на «Каменнай Горцы» кожныя 10—15 хвілін хтосьці падыходзіў. За аднапакаёўку прасілі ад $400, за дарагія кватэры — па $600-1000.

«І нават была прапанова за $200. Але, як высветлілася, гэта быў развод: з мяне хацеў узяць перадаплату за пару месяцаў хлопец, які не быў гаспадаром кватэры. Танная кватэра — гэта не значыць, што ўсё будзе добра», — дзеліцца вопытам наш герой.

Часам да Аляксандра падыходзяць людзі і распавядаюць, за колькі яны здымаюць жыллё. Самая танная кватэра, пра якую даялося пачуць, — «двушка» за $160. Магчыма, яе гаспадары проста не ўмеюць карыстацца інтэрнэтам і не ведаюць рынкавы кошт.

Здараецца, што да Аляксандра падыходзяць людзі і просяць пастаяць побач. Так ён ужо дапамог некалькім шукальнікам жылля: «Прапаноўвалі ў Чыжоўцы кватэру за $350. Я адмовіўся, а хлопец, які стаяў з боку, пагадзіўся. За ўвесь час чалавек шэсць дакладна засяліліся».

На думку хлопца, каб назбіраць грошы на кватэру ў Мінску, трэба працаваць на сябе, а не на заво-дзе: «Гэта адзіны шлях зарабіць грошы. Калі б у мяне было пастаяннае жыллё і сталая праца, то за 2—3 гады я кватэру змог бы купіць».

**Аксана Рудовіч**

# Сетка прадуктовых крамаў перайшла на беларускую мову

У «Март Ін» рэкламныя буклеты зробленыя па-беларуску.

«Тушка кураняці-бройлера, шалі падлогавыя, выпрамнік для валасоў» — гэта не дапаможнік па беларускай мове з малюнкамі, а рэкламны буклет сеткі супермаркетаў «Март Ін». Што гэта: маркетынгавы ход ці праява патрыятызму?

«Не сакрэт, што частка нашых інвестараў — літоўцы. Першае, што яны ў нас спыталі, — на якой мове мы размаўляем, ці размаўляем па-беларуску», — кажа менеджар па камунікацыях Алена Сітдзікава.

Літоўцы разумеюць, што большасць беларусаў у жыцці гавораць па-расейску. Але беларуская — другая дзяржаўная. Як ветлівыя госці, літоўцы вырашылі, што яе выкарыстанне будзе добрым ходам, павагай да краіны, у якой яны збіраюцца развіваць бізнэс.

«А таксама — што хаваць — ніхто больш пра гэтага не здагадаўся. Усе астатнія сеткі камунікуюць на рускай мове, не выкарыстоўваючы беларускую як сродак адрознення. Таму мы з задавальненнем зрабілі беларускую мову нашай адметнай рысай», — дадае Алена. Яна ж і займалася перакладам.




**Март Ін**

Першы «Март Ін» (вымаўляецца «ма́рцін») адчыніўся ў жніўні 2012 у Мінску. Цяпер працуюць дзве крамы ў сталіцы, яшчэ па адной — у Брэсце, Бабруйску і Жодзіна. Сёлета плануецца адкрыць каля 10 новых крамаў у Ваўкавыску, Бабруйску, Гомелі, Брэсце і Салігорску. Уладальнікі — літоўскія бізнэсмэны браты Міндаўгас і Гінтарас Марцінкявічусы, якія таксама валодаюць доляй акцыі сеткі «Максіма».

Натуральна, часам здараюцца памылкі. Напрыклад, адзін пільны жыхар Брэста параіў замяніць «куфаль» на «келіх» у рэкламным буклеце. «Лічу, што лепш так, чым аніяк. Мы вучымся разам з тымі, хто наведвае нашы крамы», — кажа дзяўчына.

Пакупнікі ды бізнэс-партнёры ідэю «беларусізацыі» «Март Іна» ўспрынялі пазітыўна. Праблемы з разуменем словаў ні ў каго не ўзнікалі. Зрэшты, галоўную інфармацыю для пакупнікоў — цэннікі — у краме вырашылі пакінуць па-расійску.

«Таму пакуль што беларуская — гэта рэкламныя лістоўкі і афармленне інтэр'ера. То бок тое, што не выкліча дыскамфорт у людзей у працэсе выбару», — дадае Алена.

На яе думку, цалкам перайсці на беларускую ўдасца, толькі калі ўсе камунікацыі ў беларускім грамадстве пачнуцца на роднай мове. Тады хоцькі-няхоцькі людзі пачнуць разумець, прывыкаць, адаптавацца і карыстацца. Нейкая ж ідэалагічная праца ці заклікі да патрыятызму наўрад ці спрацуюць.

**АР**

# Школьніцу, якая не хацела слухаць гімн, давялі да слёз

Канфлікт у беларускамоўным класе ў Баранавічах

Ядвіга Малашчанка вучыцца ў чацвертым класе школы №14 Баранавічаў. Гэта адзіны беларускамоўны клас у горадзе. Апроч Ясі, у ім яшчэ дзве дзяўчынкі.

У пятніцу 13 верасня Яся прыйшла на ўрок спеваў. Настаўніца Ала Іосіфаўна сказала, што сёння будуць вывучаць дзяржаўныя сімвалы. Яна паказала на герб і сцяг і спытала, ці ведаюць дзеці, што гэта нашыя нацыянальныя сімвалы. Яся не пагадзілася: «Я такога сцяга і герба не ведаю. Я ведаю толькі герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг».

Пасля перайшлі да гімна. Наконт яго ў Ясі таксама было сваё меркаванне: «Я не буду яго спяваць, ён не пра Бога. У Амерыцы пра Бога, у Польшчы — пра Бога». Настаўніца не пагадзілася: у «Маршы Дамброўскага», польскім гімне, згадак пра Усявышняга няма.

І пачала граць «Мы беларусы, мірныя людзі...». Яся закрыла вушы рукамі. Гэта, відаць, зачапіла жанчыну, яна пачала адцягваць рукі дзяўчынкі ад вушэй.

Яся заплакала і паспрабавала выйсці з кабінета. Тады настаўніца пачала здзіраць з яе заплечнік, аднак урэшце адпусціла расплаканую дзяўчынку з урока.


Ядвіга Малашчанка.

Мама дзяўчынкі Таццяна Малашчанка вырашыла некаторы час не пускаць Ясю на ўрокі да гэтай настаўніцы музыкі. Тым больш што дзіця займаецца ў музычнай школе па класе флейты, а таксама наведвае мастацкую школу.

Ніякіх прабачэнняў ні з боку адміністрацыі школы, ні ад настаўніцы Малашчанкі так і не пачулі. Сваю версію здарэння Ала Іосіфаўна журналістам не расказвае.

**АР**

# Хто яны — беларускія мільянеры?

Топ-10 самых **паспяховых бізнэсмэнаў** краіны.


Летась на вяршыні рэйтынгу быў Уладзімір Пефціеў, аднак прадаўшы «Белтэхэкспарт», згубіў і свой уплыў

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Інтэрнэт-выданне «Ежедневнік» склала новы спіс 200 самых паспяховых і ўплывовых бізнэсмэнаў краіны. У адрозненне ад сусветных аналагаў, у беларускай версіі не ўказваецца, колькі мільёнаў даляраў маюць багацеі. Таму рэйтынг і атрымаўся суб'ектыўным. Першыя пазіцыі ў ім займаюць тыя, хто на працягу апошняга года фігураваў у СМІ.

## 1. (2 пазіцыя летась). Юрый Чыж

*Нар. у 1963, вёска Сабалі Бярозаўскага раёна.*
*Капітал: «Трайпл», «Трайплфарм», ФК «Дынама» (Мінск), «Прастор», «Сілічы»*

Бізнэсмэн з-пад Бярозы канчаткова замацаваўся на вяршыні рэйтынгу багацеяў. Блізкія адносіны з Аляксандрам Лукашэнкам і сумесныя бізнэс-праекты з Дзмітрыем Лукашэнкам дазваляюць яму пачувацца ўпэўнена.

Імя Чыжа стала «назыўным» — калі кажуць пра сувязь бізнэсу і ўлады ці пра архітэктурныя праекты сумнеўнай эстэтычнай вартасці.

У апошнія месяцы група кампаній «Трайпл» усё шчыльней займаецца будаўнічымі праектамі. У абыход тэндараў і аўкцыёнаў Юрый Чыж атрымлівае новыя і новыя кавалкі зямлі ў Мінску.

## 2. (5). Аляксандр Шакуцін

*Нар. у 1959, вёска Вялікае Бабіна Аршанскага раёна.*
*«Амкадор», «Спамаш»*


ВОЛЬГА ЛОЙКА, ETUT.BY

Хто «стаіць» за Шакуціным, можна толькі здагадвацца. Раптоўны ўзлёт камсамольскага работніка ў даляравыя мільянеры не выглядаў натуральным працэсам, як, напрыклад, гісторыя поспеху таго ж Чыжа.

Сенатар і член прэзідыума «Белай Русі» скупляе заводы ў Сербіі і стварае адзін з найбуйнейшых у свеце холдынгаў па вытворчасці гідраўлічнага абсталявання.

Хобі Шакуціна, якое прынесла яму дадатковую вядомасць, — спявачка Алена Ланская і «Еўрабачанне».

## 3. (4). Віталь Арбузаў

*Нар. у 1966, Краснаполле.*
*Fenox, «Прэстан»*



Для беларускага спажыўца імя Арбузава кажа мала. З ягонай уласнасці на радзіме на слыху хіба што кругласуткавая крама «Прэстан».

Свае грошы Арбузаў зарабіў дзякуючы вытворчасці аўтамабільных кампанентаў на 12 заводах у Беларусі, Расіі і Германіі.

Круцяцца мільёны за мяжой. У Каліфорніі ён стварыў венчурны фонд Fenox Venture Capital — свае грошы беларус укладае ў перспектыўныя IT-праекты ў ЗША і Японіі. Самыя лепшыя могуць атрымаць да $1 мільёна.

## 4. (6). Павел Тапузідзіс

*Нар. у Абхазіі.*
*«Тытунь-Інвест», «Карона»*



Гіганцкую «Карону» грэк Тапузідзіс адкрыў наўпрост праз дарогу ад новай рэзідэнцыі Аляксандра Лукашэнкі. Цяпер пачынае будаваць свой чацвёрты сталічны гіпермаркет.

Тапузідзіс, які пачынаў з гандлю цацачнымі самалёцікамі, кантралюе рынак VIP-авіяцыі. Верталётныя прагулкі прапануюцца кожнаму ахвотнаму ў элітным «Робінсан Клабе», куды на карпаратывы і канцэрты з'язджаюцца зоркі расійскай эстрады.

Заслугі перад дзяржавай? Тапузідзіс уласнаручна лічыў галасы за Лукашэнку на адным з выбарчых участкаў у спальным раёне Мінска. Мільянер, які падпрацоўвае старшынёй выбарчай камісіі, — прыгожы вобраз для сацыяльна арыентаванай дзяржавы.

## 5. (3). Аляксандр Машэнскі

*Нар. у 1970, Брэст.*
*«Санта-Брэмар», «Савушкаў прадукт»*



Брэсцкаму мільянеру не ўдалося стварыць пад сваім крылом агульнабеларускі малочны холдынг. Эксперты палічылі, што гэта саслабіла пазіцыі Машэнскага.

Аднак ягоны бізнэс квітнее, нават нягледзячы на перыядычныя расійска-беларускія малочныя войны.

## 6. (18). Яўген Баскін

*«Сервалюкс»*



Яўген Баскін, які валодаў другім па велічыні вытворцам бройлераў, магілёўскай кампаніяй «Сервалюкс», летась пашырыў свой бізнэс. Ён набыў Смалявіцкую птушкафабрыку, лідара рынку.

Пікантнасць сітуацыі ў тым, што і тая, і другая «курыная» прыватызацыя адбылася пры спрыянні губернатара Барыса Батуры. Той кіраваў па чарзе Магілёўскай і Мінскай абласцямі, калі там і адбываліся ўгоды.

## 7. (20). Сяргей Літвін

*«Еўраопт», «Еўраторгінвестбанк»*

«Еўраопт» — прыклад кіравання бізнэсам з-за мяжы. Сяргей Літвін і яго кампаньён Уладзімір Васілька, супраць якіх у 2000-ых была заведзеная крымінальная справа, на ўсялякі выпадак не вяртаюцца з Еўрасаюза. Калі ўцекачы перадумалі прасіць палітычны прытулак і прапанаваць апазіцыі фінансаванне, беларуская ўлады прынялі «кампенсацыю» і дазволілі працягнуць бізнэс. Колькасць «Еўраоптаў» перавысіла 150 крамаў і працягвае расці. Сярод актываў цяпер ёсць і свой банк.

## 8. (10). Аркадзь Добкін

*Нар. у 1960, Мінск.*
*EPAM Systems*



Прыватная праграмісцкая кантора EPAM Systems, створаная мінскім інжынерам Аркадзем Добкіным, каштуе каля $1,4 мільярда — больш за савецкія прамысловыя гіганты.

Добкін спрычыніўся да стварэння звышпрыбытковага Парка высокіх тэхналогій у Мінску. Сярод атрыманых дывідэндаў — прызнае стаўленне ўладаў.

## 9. (12). Анатоль Тарнаўскі

*Нар. у 1950, Данецк.*
*«Юнівест-М»*



Бізнэсмэн з «чорнага спіса» Еўрасаюза трапіў у рэйтынг па старой памяці. Ягоная нафтавая актыўнасць зведзеная да мінімуму, ды і будаўнічыя праекты рухаюцца не так хутка.

## 10 (39). Валянцін Байко

*«Контэ СПА»*



Вытворчасць панчохаў і шкарпэтак пад Гроднам прынесла поспех былому школьнаму настаўніку. Зараз беларуска-польскае прадпрыемства прыносіць сталы прыбытак — больш за $50 мільёнаў за мінулы год.

Ягор Марціновіч

# За што забіваюць у 13 гадоў

Няўжо ў справу **замяшаныя наркотыкі**?

13-гадовага школьніка Вадзіма знайшлі забітым каля пад'езда свайго дома ў спальным раёне сталіцы. Што не падзялілі васьмікласнік з 19-гадовым мінчуком, застаецца пакуль таямніцай. Ва ўсім спрабуюць разабрацца следчыя.

Вядома, што школьнік сышоў з заняткаў пасля першага ўрока. Але пайшоў не дамоў, а застаўся гуляць на вуліцы. Там яго і сустрэў забойца.

«Мы першы раз яго бачылі, прадставіўся Максімам, — расказаў Tut.by сябар Вадзіма, з якім яны разам гулялі ў той дзень. Незнаёмец падышоў да іх сам. — Ён прапанаваў прайсціся. Вадзім з ім ішоў наперадзе. Хлопец паказваў нож, які ляжаў у кішэні байкі, маўляў, ніколі мяне не падманвай. У другой кішэні ў яго ляжала маленькая бутэлька. Мы селі на лаву каля дзіцячай пляцоўкі. Незнаёмец прапанаваў адысціся на пяць хвілін. Яны пагаварылі. Вадзім сказаў, што пасля мне перакажа». Пасля падлетак зайшоў за дом, а калі выйшаў зноў, адразу паваліўся. Дзеці пабеглі па яго маму. Але выратаваць школьніка не змаглі. Удар нажом у грудзі стаў фатальным.

Што ж магло справакаваць такую агрэсію? Магчыма, забойца быў п'яны альбо пад наркотыкамі. Некаторыя сябры гавораць пра нейкі доўг. Але за што можа быць вінен васьмікласнік?

У прыватных размовах сябры Вадзіма расказваюць пра яго толькі станоўчае. «Ён быў цудоўным. Добрым, вясёлым, заступаўся, калі было трэба... Не бачыла яго злым, быў ціхонем, заўжды ў добрым настроі і з вочкамі колера неба, у якія нельга не закахацца», — кажа Каця.

А паміж сабой абмяркоўваюць страшныя рэчы. «Лепш бы не на словах любілі, а на справе. Дзе вы ўсе былі, калі ён на дур [наркотыкі — **НН**] падсеў? Відаць, побач стаялі і дапамагалі. Вы таксама вінаватыя», — напісаў Веніямін у спачуваннях у сацыяльных сетках. «Думаеш, мы не спрабавалі яго адвучыць? Ён абяцаў спыніцца, і мы рабілі ўсё магчымае, каб яму не было дзе яе дастаць», — абураецца Каця. «Вы павінны былі падняць усіх на вушы, калі ведалі, што з ім адбываецца. Цану вашага маўчання вы ўжо заплацілі». — «Ды ён нікога не слухаў...».

Вадзім рос без бацькі. А маці адна гадавала разам з сынам яшчэ і дачку.

Затрыманаму мінчуку пагражае суровы прыезд — аж да смяротнага пакарання.

**Кастусь Матушыч**





## Загінула актывістка Святлана Волкава

Дзяўчына **трапіла пад машыну**.

29-гадовая Святлана пераходзіла праспект Незалежнасці каля станцыі метро «Уручча». Яна жыла непадалёку. Але чамусьці не пайшла ў падземны пераход. Відавочцы кажуць, што дзяўчына глядзела ў адну кропку, і нават галаву не павярнула ў бок машын... Не выглядала яна і нецвярозай.

На праспекце — восем палосаў, а на раздзяляльнай паласе стаіць яшчэ і агароджа. Святлана дайшла да сярэдзіны, калі трапіла пад колы «Мерсэдэса». Кіроўца ніяк не чакаў убачыць чалавека пасярод дарогі.

29-гадовая актывістка супрацоўнічала з кампаніямі «Гавары праўду», «Наш дом», партыяй АГП, арганізацыяй «Альтэрнатыва». Яе неаднаразова затрымлівалі за ўдзел у вулічных акцыях. Даводзілася адбываць і адміністрацыйныя арышты. Святлана часта была донарам крыві.

Акрамя грамадскай працы, яна здымалася ў масоўках на «Беларусьфільме» . Пасля адпрацавала кандытарам, прадаўцом-касірам... А з 2010 — валанцёр-актывіст, як сама сябе называла.

Святлана вяла актыўны лад жыцця. Любіла падарожнічаць. Займалася раўджампінгам — гэта скачкі з высокіх кропак на вяроўцы.

**СМ**

## Вышук



Баранавіцкі РАУС расшуквае Дзмітрыя Захарчыка па падазрэнні ў здзяйсненні цяжкага злачынства. Прыкметы: на выгляд 25-30 гадоў, рост 190 см, валасы цёмныя, быў апрануты ў белую кашулю з карычневым рукавом, сінія джынсы, карычневыя туфлі, цёмную балоневую куртку. Хто ведае месцазнаходжанне падазраванага, тэлефануйце на (0163) 48-98-08, (029) 642-15-40.



16-гадовая Настасся Яновіч сышла з дому 22 ліпеня. Больш родныя яе не бачылі. Яна працавала ў Барысаве. Прыкметы: рост каля 160 см, вочы шэрыя, валасы цёмныя да пояса. Была апранута ў сінія джынсы, майку з кароткім рукавом, на нагах былі чорна-белыя кеды. Хто ведае месцазнаходжанне зніклай, тэлефануйце на (033) 666-68-56, (033) 666-60-33.



Юрый Коласаў у студзені выехаў на заробкі з Ваўкавыска ў Расію, і да сёння яго месцазнаходжанне не ўстаноўлена. Прыкметы: на выгляд 35-40 гадоў, рост 170-175 см, хударлявы, вочы блакітныя. Хто ведае месцазнаходжанне зніклага, тэлефануйце ў Ваўкавыскі РАУС на (01512) 7-51-10, (01512) 7-51-15.

# «Выбеглі на поле ў масках і пачалі біцца»

Матч футбольнага чэмпіянату Гродзеншчыны **скончыўся бойкай**.



Бараніць сваіх заўзятараў кінуліся нават футбалісты.

Футбольны клуб «Навагрудак» прымаў краснасельскі «Цэментнік». Калі госці забілі першы гол, на полі з'явіліся маладзёны ў масках. Аказалася, яны не маюць дачынення ні да адной з футбольных каманд. Але зрабілі незабыўнае ўражанне.

«Праз хвілін дваццаць пасля пачатку гульні з боку крамы выбеглі чалавек трыццаць у масках і пальчатках. Яшчэ чалавекі чатыры з іх групы сядзелі на трыбунах у гэты час, — расказаў Дзмітрый, фанат «Навагрудка». — Нападзенне было нечаканым. Сарвалі наш банер, сцяг, хацелі забраць барабан. Але мы адразу зрэагавалі і далі адпор. Гэта былі фанаты «Партызана». Яны прыехалі проста пабіцца. Гэта не першы іх налёт на футбольных фанатаў з розных гарадоў. Усё было даволі жорстка. Але іхняга хлопца збілі моцна. Яму разбілі галаву. Бо ўсе падбеглі і білі куды папала. «Хуткая» ехала доўга: самі людзі паспелі збегаць у машыны па аптэчкі і аказвалі першую дапамогу».

У інтэрнэце напісалі, што бойка працягвалася ледзь не паўгадзіны, пакуль прыехала міліцыя. Дзмітрый кажа, што ўсё перабольшана. Біліся хвілін пяць. А калі нападнікі атрымалі адпор, разгубіліся, бо не ведалі, што рабіць далей. У дадатак двух хлопцаў у масках схапілі, астатнія далі лататы.

«Усё было падрыхтавана: прыехалі на машынах з Мінска. Яны некалькі нашых хлопцаў нямоцна стукнулі. А ім не надта пашанцавала: схапілі васьмёх чалавек. Двух схапілі на стадыёне, а яшчэ шасцярых міліцыя затрымала на выездзе з горада. За імі была пагоня, і іх машына ўрэзалася ў дрэва. Гэта былі хлопцы гадоў 18—19. Аднаму з затрыманых было 16. І банер міліцыянты змаглі вярнуць», — расказвае сведка падзей.

«Навагрудскім раённым аддзелам Следчага камітэта заведзена крымінальная справа па факце хуліганства, — паведаміў прадстаўнік СК па Гродзенскай вобласці Сяргей Шаршаневіч. — Некалькі дзясяткаў хлопцаў з'явіліся на трыбунах і сталі збіваць гледачоў. Дзякуючы актыўнаму супрацьдзеянню тых, хто абараняўся, і дапамозе футбалістаў, нападнікі збеглі. Затрыманы жыхар Мінска 1992 года нараджэння. Следчымі сумесна з міліцыяй прымаюцца меры для ўстанаўлення іншых асобаў, якія маюць дачыненне да інцыдэнту».

Між іншым, «Навагрудку» суддзя залічыў тэхнічнае паражэнне з лікам 0:3. І на бойцы гульня скончылася.

**Сяргей Макарэвіч**

## Сцісла

### Піў за рулём і будзе піць

У новы скандал трапіў Раман Мянцюк. 7 верасня яго затрымалі за стырном аўто без правоў кіроўцы і нападпітку (1,5 праміле). Мянцюк праславіўся пасля «жывога шчыта» пад Мінскам у 2008. Пасля чатырох гадоў калоніі летась ён вызваліўся па амністыі. Але на шлях выпраўлення не стаў. Акрамя штрафу, яму цяпер пагражае і новая крымінальная справа.

### Адвакаты пагарэлі на хабары

Сталічны бізнэсовец хацеў пасадзіць свайго крыўдзіцеля, а ў выніку можа апынуцца ў турме сам. Дырэктар фірмы перадаваў $10 тысяч загадчыцы юрыдычнай кансультацыі Савецкага раёна Мінска і адвакату, калі іх «накрыў» КДБ. Меркавалася, што адвакаты перададуць грошы праваахоўнікам, каб тыя завялі крымінальную справу супраць крыўдзіцеля бізнэсоўца. Але хабар да месца прызначэння не дайшоў.

### Фельчара робяць крайнім

Следчы камітэт завёў крымінальную справу супраць фельчара мінскага СІЗА-1, дзе два месяцы таму загінуў малады арыштант. Ён падазраецца ў неналежным выкананні прафесійных абавязкаў. Прычына ж смерці 21-гадовага Ігара Пціцкіна пакуль не называецца.

### Выкінула немаўля на звалку

У Магілёўскім раёне на палігоне цвёрдых бытавых адходаў у вёсцы Новая Мілеёўка 26 верасня знайшлі труп нованароджанага хлопчыка ў поліэтыленавым пакеце. Яго знайшлі бамжы, якія і паведамілі ў міліцыю. Цела дзіцяці мела пупавіну. Прыкмет гвалтоўнай смерці не выяўлена. Мяркуецца, што яго выкінула маці.

**КМ**

# Гэта мацней за Рубінава!

**Сяргей Гайдукевіч** выдаў зборнік вершаў.



Нязменны лідар Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сяргей Гайдукевіч назваў кнігу «Маё жыццё — Беларусь».

«Нас папракалі ўжо за гэтыя вершы, — кажа Алег Гайдукевіч, сын і намеснік па партыі. — Аднак трэба ўлічыць, што гэта творы, якія Сяргей Васільевіч напісаў на першых курсах».

Паводле Гайдукевіча-малодшага, кніга выйшла накладам тысяча асобнікаў, плануецца выдаць дадатковы наклад. Гэта не апошняя кніга вершаў Сяргея Гайдукевіча — у наступны том увойдуць познія вершы.

Кніга «Маё жыццё — Беларусь» аздоблена фамільным гербам Гайдукевіча, прозвішча палітыка пішацца па-беларуску кірыліцай і лацінкай. Вершы рускамоўныя.

Амаль усе вершы — пра каханне, таму назва зборніка не вельмі пасуе.

**Юрась Ускоў**

* * *

Сердце, глупое, не бейся,
Боль, рассудок не тревожь.
Ну и радуйся, и смейся!
Все равно возьму я нож.
Что терять?! Уж все пропало
Что желать?! —
Всего уж нет
Мне не нужен и задаром
Этот пошлый белый свет!
Я повеса! Неудачный.
Жизнь не радует меня.
Разругаюсь сочным матом,
Свою скромность не виня.
Ну и пусть в упадке зычном,
Проклиная все, что есть,
Заливаю ум столичной!
Мне уж больше не расцвести.
Эх, гуляй! Братва, гуляй!
Помни, что на свете,
Как ты жизнь не прожигай,
Прелести все эти!!!

**«Врагам моего любимого поэта»**

Ты на Есенина не капай.
Не дуракам о нем судить,
А ты своею грязной лапой
Его так хочешь загрязнить!
Не ртом твоим
гнусавить строки,
Которых ты
и не поймешь,
И не кричи, не делай вздохи!
…Не своей смертью
умрешь!
Ты глуп!
И тупостью своей,
Постигнуть смысла
ты не сможешь!
Что был — талантище —
Сергей!
А ты! Ублюдок!
Что ты можешь?!



**Фотафакт**

**У Мінску праходзіць X архітэктурны фестываль «Мінск-2013». Цікавай асаблівасцю стаў студэнцкі конкурс «Архітэктура і архітэктурны дызайн». На ім было шмат цікавых і незвычайных праектаў — ад касмалагічнага парка ў Лагойску да прамысловага гатэля на мінскім праспекце Машэрава. На фота: студэнты БНТУ прапануюць паставіць на плошчы Багушэвіча ў Мінску гіганцкі хмарачос, самы вялікі ў сталіцы.**

# Абвесткі ў метро вярнуліся на беларускую мову

Па-беларуску гучаць не толькі назвы прыпынкаў, але і правілы карыстання метрапалітэнам, і **нават сацыяльная рэклама**.

У канцы жніўня у вагонах метро падчас прыпынку пачалі гучаць новыя абвесткі пра правілы карыстання метрапалітэнам — іх агучвалі выключна па-расейску.

Пасля шматлікіх зваротаў грамадзян дырэктар мінскага метрапалітэна Расціслаў Юрэня паабяцаў, што абвестак на расейскай мове ў метро не будзе.

Цяпер па-беларуску агучваюць не толькі назвы прыпынкаў, але і папярэджанні пра тое, што нельга заходзіць у вагоны пасля абʼявы пра закрыццё дзвярэй, і нават сацыяльную рэкламу пра эканомію электрычнасці. Можна сказаць, што метро стала цалкам «свойскім».

Гэта не першы падобны выпадак: у канцы 2011 года ў метро на расейскую мову пераклалі аўдыёролік, які заклікаў пасажыраў да ветлівасці, але пасля шматлікіх зваротаў грамадзян ізноў вярнулі беларускі варыянт абвесткі.

**АГ**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Шлёмы, альбо Канец Савецкага Саюза

Два тыдні таму ў нататках «Шкарпэткі для галоўнага» я абяцаў падрабязней расказаць пра ралі журналістаў Еўропы, што адбылося ў кастрычніку 1989 года ў Польшчы.

Ні я, ні Слава Дубінка аніякага, нават аматарскага, уяўлення пра ралі не мелі. Але калі даімчалі з Варшавы да Жэшува, дзе на 17 гадзін быў прызначаны агульны збор, і па радыё прагучаў адпаведны сігнал, я сказаў Славу: «Мабыць, гэта і ёсць ралі — хвіліна ў хвіліну...» Паляк, што рэгістраваў удзельнікаў, пахітаў галавой: «Бач ты, на «Волзе» прыехалі... А дзе шлемы?!»

Я ведаў, што трэба мець шлемы, аднак пакінуў іх у Мінску. Спужаўся, каб з імі нічога не здарылася — так неахвотна пазычыў іх знаёмы аўтагоншчык. І вось цяпер над намі навісла пагроза адхілення ад спаборніцтваў...

Бліжэй да ночы падʼехалі журналісты з тальяцінскай шматтыражкі. Хлопцы сціплыя і чулыя, адразу пачалі спачуваць нам. Дасталі мы бутэльку «Белавежскай», шматок сала, цыбуліны, яшчэ сёе-тое з часова пакінутай радзімы, сядзім з тальяцінскімі хлопцамі, добра сядзім, чакаем яшчэ масквічоў з часопіса «За рулём»...

Зʼявіліся апоўначы — маладыя, амбіцыйна вяртлявыя, і адразу ў камандзірскі тон: «Почему без шлёмов?» Высветлілася, што адзін з іх узначальвае так званую «команду СССР», у якую быццам уваходзім і мы. Вось тут Слава і пачаў размаўляць з імі на роднай мове. «Навошта так?» — спытаўся я, калі ўсе разышліся. Слава неяк сумна паглядзеў на мяне: «Табе спадабалася, як яны з намі размаўляюць?» І сапраўды: адмовіліся ад «Белавежскай» і без усялякіх добрых пажаданняў на ноч загадалі заўтра з раніцы ехаць «в разведку» па першым этапе спаборніцтваў, 350 кіламетраў у адзін бок. Інакш не дадуць камандзіровачных і паведамяць аб нашых паводзінах кіраўніцтву ў Маскве. Як кіроўца, я адмовіўся. Заўтрашні дзень быў вольны, палякі абяцалі цікавыя экскурсіі. Якая «разведка»? Ды і навошта?...

«Вам что, не дорога честь команды?» — «Не-а...» — «Может, и честь страны не дорога?» — «Не-а... Мы не спортсмены, проедем, как сможем...»

Заўважу: ніякіх «каманд» у тых спаборніцтвах не было, кожны змагаўся ці проста руліў, як мог, сам за сябе. Прычым тут «честь страны»?

### За намі засталіся «Сааб», два «Мерседэсы» і адзін «Нісан»

Слаўка ледзь утрымліваўся ад рогату, слухаючы гэты «дыялог». Мяне таксама душыў смех з таго, як чырванеў, нібыта грэбень у пеўня, твар «капитана команды». Ды непатрэбны нам твае грошы, унь, уся «Волга» будучымі «грашыма» набіта — рознымі *бэбахамі* на продаж.

І ўсё ж не па-сапраўднаму хваляваліся мы, калі вярнуліся з экскурсіі, а іх яшчэ не было. Нарэшце зʼявіліся — з перавязанымі галовамі, кульгаючы і падтрымліваючы адзін аднаго... А назаўтра зʼехалі пацiху ў Маскву, хаваючыся ад ветру за прарэзаным, як у танку, лістом фанеры замест шкла. Шкада іх было. Але ж засталіся нам ад іх два шлемы...

Ажно два тыдні кружыліся мы па доўгіх этапах, коўзаліся па Татрах, выконвалі розныя «змейкі»... На нейкі дзень я заўважыў, што трымаем 3-е месца. І завяло... Апошнім было спаборніцтва пад назвай «горная хуткасць». Дасюль, мабыць, плыве між вяршынямі пах прыпечаных гумы. Але — «II miejsce w klasie V»! За намі засталіся «Сааб», два «Мерседэсы» і адзін «Нісан». А вось тальяцінцам не пашанцавала: іх родная «дзявятка» некалькі разоў псавалася. У выніку — шостае месца...

Як цяпер бачу сумныя вочы Мікалая, заўзятага гоншчыка, калі на ўганараванні, што адбылося напрыканцы, вярнуўся ён да стала з прызам — спартовай сумкай з нейкай тонкай хімічнай тканіны і надпісам Puma. Я працягнуў яму свой прыз: «Мяняемся?»

Гэта быў цудоўны, неверагодна бліскучы нямецкі шлем.

«Вось шлёма! — усклікнуў знаёмы аўтагоншчык ужо ў Мінску. — Ведаеш, колькі ён тут каштуе? 400, а мо і ўсе 500 даляраў!»

Вядома, я засумаваў. Адно супакойвала: не адзін я шлёма, унь, і Слаўка свае бэбахі так і не прадаў...

Не, немагчыма забыцца на тое, як ірванулі мы з-пад Жэшува ў Кракаў да знаёмага археолага Казіміра Гадлоўскага, бацька якога згінуў у Катыні; як нечакана апынуліся на званай ім вячэры ў гонар двух аўстрыйскіх калегаў; як, седзячы ў пацёртых джынсах побач з імі і рэктарам Ягелонскага ўніверсітэта, апранутымі ў фракі, падʼядалі адзіную на той вячэры грэчневую кашу, закусваючы вогнепадобны крупнік — Казік усё падліваў і падліваў яго нам пад круглым дубовым сталом...

Як усё на радзіме заблудзіліся ў цемры і памкнуліся праз дождж па пустой вузкай бетонцы, пакуль не ўпёрліся ў зялёныя металічныя вароты з чырвонымі зоркамі па баках. Я выключыў рухавік, адчыніў акно... І тут мы пабачылі нейкую постаць у накінутым на галаву футры. З-пад футра бліснуў казырок. «Што гэта? Дзе мы?» — «Што-што, дзе-дзе... Усё, прыехалі. Застава гэта. Канец Савецкага Саюза...»

...Няма ўжо Славы, няма Казіка, няма той Польшчы... І Савецкага Саюза няма.

Засталася толькі падраная звонку спартовая сумка Puma, у якой я цягаю бульбу з Камароўскага рынку.

# «Дажынкі» ў Жлобіне: **вучэбная скварка і гул верталёта Лукашэнкі**

Васямнаццатыя «Дажынкі» пачаліся для мяне **з прывакзальнай кавярні** ў Жлобіне.

Ідэальная чысціня чыгуначнага вакзала з адрэстаўраванай залай, новым мікашэвіцкім брукам і цнатліва пафарбаваныя ў цёплыя колеры фасады стваралі ўражанне горада-ўтопіі. Кожны рух па яго ідэальных ходніках успрымаўся як імклівы крок наперад — у лепшую будучыню.

У кавярні «Бістро» а 5 раніцы ўжо вiравала жыццё — стомленыя ад першага «дажыначнага» дня, у парах алкаголю і нечага кулінарнага, наведнікі замаўлялі распушчальную каву і падагрэтыя беляшы. Нехта замаўляў і нешта крапчэйшае. Маладая пара распачала дыялог:

— Малая, ну я хачу расслабіцца...
— Ты не будзеш гарэлку!

Побач за столікам спіць мужчына. На падлозе пакеты з закупамі, і там жа, як элемент свята, мігціць кітайскі сувенірны ліхтарык... Святочны ранак разразае голас прадавачкі: «Так, выходзім, у нас перэрыў». «Братан, падымайся, падымайся, абуюць», — пазэкаўску штурхае заснулага бадзёры інтэлігентны мужчына, які паўгадзіны таму піў каву і запіваў яе чарнілам з гарла, дастаючы бутэльку з рукава... Недзе ўдалечыні, на цэнтральнай плошчы Жлобіна, ужо праступаюць сілуэты свята — сцяжкі, шалманы, сцэна, міліцэйскія агароджы.

Другі дзень «Дажынак» у Жлобіне — гэта дзень Лукашэнкі. 28 верасня ён прыляціць сюды на верталёце. На вакзале вецер гайдае бела-чырвоныя стужкі агароджы пад пустым навесам — гэта для яго, ён наведае і адчыніць адрэстаўраваны вакзал. Побач з чыгункай гуртуюцца супрацоўнікі службы бяспекі... Дзве шэрыя масы аднастайных людзей, чалавек па 50, сціскаюцца ў кола і некага слухаюць там у цэнтры. На вакзале з'яўляюцца сабакі і металашукальнікі. І прадавачка «Бістро» адчыняе дзверы пасля перапынку...

...Пад «звон» пластыкавых келіхаў, фонавы мат, прызнанні ў каханні і эфірны шум рацый ГБ людзі ў цывільным і супрацоўнікі службы бяспекі Лукашэнкі купляюць піражныя і каву «тры ў адным»...

«Выходзім!» — з'яўляецца міліцыя, утаймоўвае распіваючых гарэлку за суседнім сталом і адводзіць іх кудысьці ў бок вакзальнай прыбіральні. Дзве тысячы там за ўваход, дарэчы.

Цэнтр Жлобліна ачэплены трайным колам агароджы. Першае — агульная пляцоўка святаў, другое — гандлёвыя шэрагі, і трэцяе — галоўная сцэна і зона Лукашэнкі. На кожным коле па некалькі КПП з надглядам. На перакрытых вуліцах, якія сталі пешаходнымі, расстаўлены стацыянарныя камеры відэаназірання. На КПП шыльды, дзе прапісаныя дзясяткі пунктаў таго, што нельга праносіць. Калі абагульніць, то скажу, што прасцей з сабой нічога


Шчаслівыя жлобінцы фатаграфуюцца з музыкантамі таксідэрмічнага аркестра.


Інсталяцыя «Ратуйма бульбу».


Госці Дажынак слухаюць гук ад прызямлення верталёта Лукашэнкі.


Цуды Дажынак: каравай з рукамі, печ — з нагамі.


За 10 тысяч і вы змаглі б сфатаграфавацца ў такой сукенцы.

на «Дажынкі» не браць. Тэлефон і 0,5 вады ў пластыку — можна. У першы дзень свята гэтыя шыльды з правіламі віселі таксама, але жлобінцы, відаць, забыліся на іх ды пацягнулі з сабой на свята ўраджаю літровыя пакеты з сокам і двухлітровыя «батлы» піва. Іх — нельга. І ўсё гэта дабро складалася перад КПП пад нагамі спецназа. Такія вось тэхнічныя штучкі жлобінскіх «Дажынак».

Прэс-цэнтр, расфарбаваны ў колеры вясёлкі, быццам бы помнік «прапагандзе гамафобіі», месціўся ў нейкім каледжы. Клас інфарматыкі. Камп'ютары, дарэчы, з інтэрнэтам. На дошцы нехта крэйдай пажартаваў: «27 верасня. Класная работа. «Дажынкі». А ніжэй адзнака —«2». Тут афармляюць камандзіроўкі, выдаюць бэйджы «прэса» і талоны на абед. Кіраўнік службы аховы Лукашэнкі збірае вакол сябе прэзідэнцкі пул з журналістаў дзяржаўных СМІ, і ўсе яны выпраўляюцца чакаць прылёту галоўнага госця «Дажынак».

Людзі цiснуцца да міліцэйскіх агароджаў. На ўвесь Жлобін тарахціць верталёт Лукашэнкі. Спецназ адціскае людзей ад шчылін паміж шалманамі — усе спрабуюць убачыць калі не прэзідэнта, дык хоць яго верталёт... Але яго няма — быццам хтосьці з калонак уключыў фанаграму гукаў пасадкі верталёта. І ў гэты момант «Дажынкі» падзяліліся на «народныя» — з гарэлкай, шашлыком і дзівоснымі аграінсталяцыямі, і «дзяржаўныя» — з нервовай аховай, гадзінамі чакання, процьмай вобшукаў, надглядаў і праверак.

На святочныя пляцоўкі Жлобіна выйшаў ці не ўвесь горад. Люду было сапраўды шмат — як на Неўскім праспекце Пецярбурга ў турыстычны сезон. СТВ у вечаровым выпуску навін параўнае «Дажынкі» з Елісейскімі палямі... Групкамі вадзілі па-зімоваму апранутых кітайцаў, падпярэзаных фотакамерамі.

У той момант, калі імправізаваныя вясковыя падворкі частавалі людзей і здзіўлялі платанічнымі інсталяцыямі з садавіны і агародніны, перадавікі жніва, перацягнутыя паясамі на манер слуцкіх, абцяжараныя першым святочным днём і даездам у сталіцу «Дажынак», а пасля і інструктажам службы аховы, атрымлівалі свае ўзнагароды — дыпломы, беларускія грошы і кітайскія аўто. Ідэал свята ўраджаю быў у той момант у самым росквіце. На трыбуне ўзвышаліся камбайнеры-пераможцы, а недзе за кардонамі і пад камерамі назірання весяліўся і дзякаваў за гэтую перамогу ўсцешаны народ.

У кулуарах прэс-цэнтра журналісты прэзідэнцкага пулу сядзелі побач і звяралі паміж сабой цытаты Лукашэнкі. Ніхто не мог зразумець тыя выказванні пра «народзец», і ўсе чакалі афіцыйнай версіі прэзідэнцкай прэс-службы. Ніхто не застаўся без працы, нікога не пакінулі галодным. Проста да вечара ўсе стаміліся. Ад карнавалаў таксама стамляюцца.

**Сяргей Гудзілін, Жлобін — Мінск**

# Чаму не мірацца азербайджанцы з армянамі

Вырашэнне **Карабахскага канфлікту** ў інтарэсах абедзвюх дзяржаў.

«Першы раз у Баку?» — пытаецца ў мяне новы знаёмы Элман, адміністратар адной мінскай забаўляльнай установы.

Сцвярджальна ківаю галавой. Час лёту ад Мінска да Баку праводзім у размовах з Элманам.

«У Баку абавязкова спадабаецца. Гэта горад высокай культуры. У нас нарадзіліся Палад Бюльбюльаглы, Мсціслаў Растраповіч, Ларыса Доліна, Муслім Магамаеў... Гэты під...ас... Каспараў».

Убачыўшы неразуменне на маім твары, Элман хутка паясняе: «Я яго не люблю, бо ў чалавека не можа быць дзве радзімы, а не таму, што армянін. У мяне аднакласнікі армяне былі, і сёння з імі бачымся ў Маскве, перапісваемся праз інтэрнэт. Усё нармальна».

«Я нарадзіўся ў 69-м годзе. У нас гэта лічыцца зніклае пакаленне. Палова маіх сяброў загінула на вайне», — сумна кажа мужчына.

### Вазір

Так ці інакш, але тэма дачыненняў азербайджанцаў і армян суправаджала мяне падчас усяго знаходжання ў Баку. Нават калі сам не шукаў гэтага.

Вазір працуе ахоўнікам. Мы нечакана пазнаёміліся ў адкрытай кавярні на ўскрайку азербайджанскай сталіцы. Ён робіць для мяне кароткі экскурс у мясцовую кухню: «Гэта матал — самы лепшы сыр, які знойдзеш тут. А гэта — гадых, смятана». Яе падаюць у маленькіх гліняных збаночках, ахаладжанай. Сапраўды, вельмі смачна.

Вазір да 1988 года жыў у Агдаме. «Цяпер гэты горад пад армянскай акупацыяй», — кажа ён мне. «Гэта мой горад, мая зямля. Чаму я не магу наведаць яе? Чаму не магу трапіць на магілы да родных?» — пытаецца ён у мяне. Я не ведаю, што адказаць Вазіру.

### Гісторыя канфлікту

Нагорны Карабах — адно з самых выбухных месцаў Закаўказзя. Кроў лілася на гэтых землях у 1905 і 1918 гадах. Лёсавызначальныя гады для Расійскай імперыі, калі кантроль з цэнтра змяншаўся, а азербайджанскі і армянскі нацыяналізмы не знаходзілі іншага вырашэння праблемы, апроч узброенага. Зрэшты, у той час так вырашаліся многія пытанні ў свеце.

У 1921 годзе Каўказскае бюро Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў) замацоўвае Нагорны Карабах за Азербайджанскай ССР, прадстаўляючы рэгіёну вялікую аўтаномію. Ёсць меркаванне, што зроблена гэта было, каб палепшыць адносіны СССР з Турцыяй Кемаля Атацюрка.

Фактычна мовай справаводства ў рэгіёне была армянская. Армяне ж складалі большасць сярод жыхароў, але тэрытарыяльна Карабах уваходзіў у склад Азербайджана.

«Напружанасць паміж армянамі і азербайджанцамі была і ў савецкі час, але мы жылі пры дыктатуры, а там усе працэсы замарожваюцца.

**Азербайджан згубіў кантроль над Нагорным Карабахам. Але і назваць Арменію «пераможцай» не выпадае**

Злачынстваў нават менее. Бо ўсе функцыі злачыннага свету бярэ на сябе дзяржава. Пры СССР пытанне Карабаха не было вырашанае, яно было законсервавана», — кажа Іса Гамбар, лідар партыі «Мусават».

Кроў зноў палілася ў 1988 годзе, на сконе СССР. Барацьба за далучэнне Нагорнага Карабаха інтэрпрэтавалася як «ўз'яднненне» армянскіх земляў і ўзнаўленне гістарычнай справядлівасці.

### Хто пераможца?

У выніку тых падзеяў з Арменіі з'ехалі ўсе азербайджанцы, з Азербайджана — армяне. Доўгія 25 гадоў краіны не маюць ніякіх адносін. Азербайджан згубіў кантроль над тэрыторыяй Нагорнага Карабаха. Але і назваць Арменію «пераможцай» у канфлікце не паварочваецца язык.

«Першы прэзідэнт Арменіі Левон Тэр-Петрасян — разумны мужык, хоць пры ім адбыўся захоп. Ён рэалістычны і стрыманы. У многім гэта не яго дзеянні, а палявых камандзіраў. Ён кажа пра сённяшнюю Арменію: праводзьце рэформы, што хочаце рабіце, але пакуль Арменія не знойдзе кампрамісу ў карабахскім пытанні і не нармалізуе адносіны з Азербайджанам і Турцыяй, краіна развівацца не можа. Ніхто не едзе ў Арменію будаваць прадпрыемствы. Унутраны рынак вельмі маленькі, і будаваць вялікае прадпрыемства няма сэнсу, можна абмежавацца сярэднім ці малым. Прадаваць няма куды, бо азербайджанскі і турэцкі рынкі закрытыя. Толькі за кошт расійскіх крэдытаў Арменія мінімальна забяспечвае плывучасць». Гэта мне кажа Расім Мусабекаў.

Сёння — дэпутат Мілі Меджліса і адзін з найлепшых палітолагаў краіны. У савецкі час ён працаваў у маскоўскім бюро камсамола, прычым, курыраваў там БССР. У 1990-я Мусабекаў удзельнічаў у перамовах з армянскім бокам па карабахскім пытанні. Мы размаўляем у аўдыторыі Акадэміі кіравання пры прэзідэнце Азербайджана, дзе Мусабекаў чытае курс паліталогіі.

«Ніхто не кажа ў Азербайджане, што трэба ўсіх армян выгнаць з Нагорнага Карабаха. Мы кажам пра аўтаномію, дзе ўлада належыць армянам, але звязаная тэрыторыя мяжавіта з Баку. Мы можам усталяваць зноў мір і добрасуседства. З Арменіі ў Карабах толькі адна дарога. А з Азербайджана — шэсць. У тым ліку чыгунка. Калі Карабах пакінулі ў Азербайджане, то тлумачылі гэта тым, што эканамічна і камунікацыйна рэгіён звязаны менавіта з Баку».

### Ніхто не заклікае адмовіцца ад Карабаха

Здаецца, што ў пытанні Карабаха ў Азербайджане ўсе маюць згоду. Усе кажуць — Карабах мусіць быць «вернуты». Ніхто нават з інтэлектуалаў не адважваецца выказаць меркаванне, што Азербайджану трэба адмовіцца ад гэтай тэрыторыі, каб існаваць далей. Калі б такое сказаў палітык, то будучыні ў яго проста не было б.

«Выхад з гэтага канфлікту можа быць у рамках еўрапейскай інтэграцыі краін, — кажа галоўны рэдактар інфармацыйнага агенцтва «Туран» Мехман Аліеў. — Толькі дэмакратычна абраныя кіраўнікі Арменіі і Азербайджана могуць садзіцца за стол ды вырашаць пытанні. Мы праводзім рэгулярныя кансультацыі. Вядома, не ў Баку і Ерэване. Ніхто не выкарыстоўвае рыторыку, што трэба ваяваць. Мы часта аперуем мінулым «Яны нас столькі забілі!», а трэба перайсці да інструментаў будучыні. Нам трэба ствараць адзіную эканамічную прастору, супрацоўнічаць у эканоміцы, транспарце, культуры. На жаль, пры сённяшніх уладах гэта немагчыма».

**«Толькі дэмакратычна абраныя кіраўнікі Арменіі і Азербайджана могуць вырашыць пытанне Карабаху»**

«Калі я вучыўся на журфаку МГУ, то ў нас быў выкладчык Сурэн Аўсепян. Сёння ён загадчык кафедры тэлебачання ў Ерэванскім універсітэце. Ён бегаў па ўніверсітэце і збіраў подпісы, каб Карабах перадалі Арменіі. Што ты робіш, пытаюся, ты разумееш, што будзе вялікая кроў? «Вам гэта ўсё адно не трэба. А Арменія без Карабаха жыць не зможа, там урадлівыя землі. Будзем сеяць хлеб. А ў вас зямлі шмат», — адказваў ён мне. Прымітыўнае разуменне. Я бачыў яго тры гады таму на канферэнцыі АБСЕ ў Тбілісі. Ён прызнаў, што тыя дзеянні былі памылкай», — працягвае Мехман.

### Бяда для людзей

На многіх дамах Баку вісяць мемарыяльныя шыльды ў памяць аб палеглых у тым канфлікце. На ўскрайках стаяць дамы бежанцаў, скалочаныя на хуткую руку. Там ужо не да шыку. Бежанцы займалі дзіцячыя садкі, школы. Аграмадная гуманітарная праблема. Не да канца вырашаная нават праз 20 гадоў.

«Я не кажу, што Карабах — гэта адвечна азербайджанская зямля, —кажа Анар Оруджоў з «Тэлеканала 13». —У савецкі час людзі нармальна там жылі. Няхай гэта будзе маленькая дзяржава армян у Азербайджане. Каўказ — гэта мультынацыянальны рэгіён і стварыць канфлікт тут вельмі лёгка. Ёсць рэгіён Барчалы ў Грузіі, дзе большасць насельніцтва складаюць азербайджанцы, але ж ніхто ніколі не ўздымаў пытанне аб «вяртанні» гэтай зямлі».

Я не бяруся меркаваць, хто меў і мае рацыю ў канфлікце, а хто — не. Не жывучы там, цяжка зразумець усе тонкасці і акалічнасці. У Баку я пабачыў людзей, для якіх той канфлікт стаў найвялікшай трагедыяй жыцця. Перакананы, што такіх самых людзей я б пабачыў у Ерэване.

У той час, як у Еўрасаюзе знікаюць межы, не могуць дзве еўрапейскія дзяржавы знаходзіцца ў стане вайны. Прымірэнне для абедзвюх краін пайшло б толькі на карысць па ўсіх пазіцыях. Здаецца, гэта разумеюць усе, але ніхто не можа пераступіцца нацыянальным гонарам. Раны яшчэ жывыя, яны баляць.

**Зміцер Панкавец, Баку — Мінск**



**На Алеі шахідаў у Баку пахаваныя азербайджанцы, што не вярнуліся жывымі з вайны ў Карабаху.**

**Нагорны Карабах**

Рэгіён Закаўказзя. Кантралюецца непрызнанай у свеце Нагорна-Карабахскай рэспублікай. У ХХ ст. рэгіён стаў галоўнай арэнай жорсткіх сутыкненняў армян і азербайджанцаў. Апошні ваенны канфлікт скончыўся ў 1994 годзе. З цюркскіх моваў «Карабах» перакладаецца як «чорны сад». За савецкім часам Карабах належыў Азербайджанскай ССР, але большасць насельніцтва складалі армяне.



# «Засмучаны хакеіст» і іншыя

Фестываль «TEART»: **ТОП-5 спектакляў**, якія варта ўбачыць.

У суботу ў Мінску стартуе міжнародны фестываль «TEART». На працягу трох тыдняў тэатралы змогуць пабачыць 16 спектакляў з 8 краін. Улічваючы крызісны стан айчыннага тэатра, аматарам мастацтва будзе цікавая кожная пастаноўка. Але калі вы абмежаваныя ў часе і сродках, на што варта звярнуць асаблівую ўвагу?

## 1. «Кацярына Іванаўна»

*Расійскі дзяржаўны акадэмічны тэатр драмы імя Фёдара Волкава (Яраслаўль, Расія)*



Расійская тэатральная прэмія «Залатая маска» з'яўляецца самым вядомым і аўтарытэтным праектам на постсавецкай прасторы. У яе межах вызначаюцца найлепшыя пастаноўкі, а таксама пераможцы ў шматлікіх намінацыях (найлепшы рэжысёр, сцэнограф, мастак па касцюмах, кампазітар, мужчынская і жаночая роля). Праўда, апошнім часам у асяроддзі спецыялістаў гучаць меркаванні, што, маўляў, «Маска» стала не той, што раней. Супакою скептыкаў: нашай Нацыянальнай тэатральнай прэміі да яе ўзроўню, як да Месяца. Да таго ж існуе пэўная планка, ніжэй за якую «Залатая маска» не апускаецца.

Спектакль «Кацярына Іванаўна» пастаўлены паводле п'есы Леаніда Андрэева, аднаго з самых папулярных пісьменнікаў дарэвалюцыйнай Расіі. Аматарам вострых адчуванняў паведамлю: муж тры разы будзе страляць у жонку, якую падазрае ў здрадзе. Чым усё скончыцца, намякае жанр спектакля, пазначаны як «драма ў двух частках з разрывам». А вось для тэатралаў працытую выказванне рэжысёра Яўгена Марчэлі: «Кацярына Іванаўна» — гэта псіхалагічная гісторыя, і ў ёй ёсць самая цікавая для мяне тэма — узаемаадносін мужчыны і жанчыны, кахання, здрады, немагчымасці кахання». Дадам, што выканаўца галоўнай ролі Анастасія Святлова атрымала спецыяльную прэмію журы «Залатой маскі-2011».

## 2. «Ціхі шэпт сыходзячых крокаў»

*Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі (Мінск, Беларусь)*



РТБД прадстаўляе на форуме сваю апошнюю прэм'еру: спектакль «Ціхі шэпт сыходзячых крокаў», які паставіў рэжысёр з Кыргызстана Шаміль Дыйканбаеў. Адзін з найлепшых мінскіх калектываў упершыню звярнуўся да п'есы Дзмітрыя Багаслаўскага. Яго імя прадстаўляе такі накірунак у сучасным тэатры як «новая драма» і доўгі час было невядомым у Беларусі. Толькі пасля таго, як да твораў Дзмітрыя звярнуліся вядомыя расійскія калектывы (у тым ліку маскоўскі тэатр імя Маякоўскага), а сам ён перамог на екацярынбургскім конкурсе «Еўразія» і маскоўскім фестывалі «Любімаўка», пра яго загаварылі на радзіме.

Жанр спектакля пазначаны як сон у двух дзеях. Галоўны герой Аляксандр імкнецца зразумець, ці любіў яго бацька-набожчык. Але пагаварыць з ім ён можа толькі ў сне: тата настойліва просіць сына пачысціць студню. Тым часам родныя сёстры вырашылі прадаць бацькоўскі дом, з якім звязана дзяцінства і сямейныя ўспаміны... У пэўны момант цяжка паверыць, што перад табой тэкст сучаснага моднага драматурга. «Ціхі шэпт» падаецца сапраўднай класікай, якая ўздымае вечныя пытанні жыцця, смерці, любові, вернасці сваім караням.

Дарэчы, пра сваю зацікаўленасць «Ціхім шэптам» у свой час заявілі кіраўнікі некалькіх мінскіх тэатраў. А ў Купалаўскім прэм'ера адбудзецца ўжо ў бягучым сезоне.

## 3. «Засмучаны хакеіст»

*Цэнтр візуальных і выканаўчых мастацтваў (Мінск, Беларусь), Тэатр post (Санкт-Пецярбург, Расія)*

Ацэнка творчасці беларускага драматурга Паўла Пражко, аўтара «Засмучанага хакеіста», — адно з найбольш дыскусійных пытанняў на постсавецкай мастацкай прасторы. Для кансерватараў і традыцыяналістаў яго п'есы — сведчанне дэградацыі тэатра, для наватараў — адна з вышыняў сучаснай драматургіі. На думку расійскага тэатральнага крытыка Паўла Руднева, «беларус Павел Пражко сёння — сучасны драматург, якога ў Расіі з пакалення 30-гадовых абмяркоўваюць і ставяць найбольш. Павел Пражко змог змяніць ход развіцця сучаснай п'есы ў Расіі. Ён павярнуў «новую драму» ад драматургіі тэмы да драматургіі мовы, да дыскусій вакол ладу сучаснай п'есы. Ён зрабіў форму тэксту і мову п'есы тэмамі для абмеркавання».

Але імя Пражко амаль ніколі не трапляе ў афішы досыць кансерватыўных беларускіх тэатраў. Цяпер спектаклі паводле яго п'ес ідуць толькі ў Магілёве («Гаспадар кавярні») і Брэсце («Ураджай»). Новая пастаноўка — адна з першых спробаў пазнаёміць сталічную публіку з айчынным драматургам. Дарэчы, для пастаноўкі з Санкт-Пецярбурга спецыяльна запрошаны рэжысёр Дзмітрый Валкастрэлаў, якога лічаць галоўным спецыялістам па інтэрпрэтацыі твораў Пражко. Сёлета Валкастрэлаў стаў адным з уладальнікаў спецыяльнай прэміі журы «Залатая маска» за пастаноўку адной з яго п'ес.



Беларуса Паўла Пражко называюць у Расіі адным з самых спрэчных і цікавых драматургаў.

## 4. «Добры чалавек з Сезуана»

*Маскоўскі дзяржаўны тэатр імя А.С. Пушкіна (Масква, Расія)*



«Добры чалавек з Сезуана»

На прасторах СССР аднайменная п'еса Бертальда Брэхта зрабілася ў свой час культавай. Пастаноўка, якую ажыццявіў у 1964 рэжысёр Юрый Любімаў, стала пачаткам дзейнасці легендарнага тэатра на Таганцы, аднаго з галоўных дысідэнцкіх асяродкаў Масквы эпохі застою. Доўгі час здавалася, што ўсе спробы пераўзысці гэты спектакль загадзя асуджаны...

Рэжысёр Юрый Бутусаў паставіў сваю «Добрага чалавека» ў тэатры імя Пушкіна, калектыве, які яшчэ нядаўна меў у Маскве рэпутацыю трывалага «сераднячка». Але рызыка апраўдала сябе. У аснове «Добрага чалавека» — гісторыя прастытуткі Шэн Тэ. Калі багі спусціліся на зямлю, толькі яна пусціла іх пераначаваць. Але чым больш дзяўчына робіць добрых спраў, тым больш мае непрыемнасцяў і няшчасцяў. Тады Шэн Тэ вырашае змяніцца — і ў горадзе з'яўляецца яе стрыечны «брат», жорсткі Шуй Та, які ўвасабляе цёмны бок у характары гераіні...

Бутусаў здолеў сродкамі сучаснага тэатра распавесці аб спадвечным супрацьстаянні дабра і зла, іх зменлівасці і шматаблічнасці. «Добры чалавек» стаў адным з галоўных адкрыццяў маскоўскага сезону. Дарэчы, пастаноўка будзе цікавая і меламанам. Зонгі на вершы Брэхта выконваюць самі артысты ў суправаджэнні ансамбля салістаў «Чыстая музыка».

## 5. «Лір»

*Дзяржаўны драматычны тэатр «Прытулак Камедыянта» (Санкт-Пецярбург, Расія)*

**«(А)палонія»**

*Новы тэатр (Варшава, Польшча)*



«Лір»

Пад пятым нумарам у ТОПе аб'яднаем адразу дзве пастаноўкі. Для разумення «(А)палоніі» і «Ліра» патрабуецца значны глядацкі досвед, абазнанасць у сучасным мастацтве і гатоўнасць прымаць эксперымент.

«(А)палонія» створана рэжысёрам Кшыштафам Варлікоўскім на аснове п'ес Эўрыпіда, Эсхіла і сучаснай польскай пісьменніцы Ганны Краль. Спектакль, насычаны грэчаскай міфалогіяй, будзе доўжыцца чатыры з паловай гадзіны. Яго дзеянне будзе разгортвацца ў спартыўным комплексе «Дынама» (там, дзе ладзяцца начныя кніжныя кірмашы). У Мінску гэта адзіная пляцоўка, дзе можна прадставіць тэхнічныя дасягненні польскага тэатра. Паводле меркавання спецыялістаў, у гэтым плане мы адстаём ад заходніх суседзяў як мінімум на тры дзесяцігоддзі.

Спектакль «Лір», на першы погляд, пастаўлены рэжысёрам Канстанцінам Багамолавым па матывах трагедыі Шэкспіра. Але цяжка нават уявіць, куды можа завесці фантазія пастаноўшчыка! У п'есе аўтар распавядае нам гісторыю старога караля Ліра, які падзяліў краіну паміж дочкамі і адразу стаў непатрэбны ўсім, акрамя малодшай. Дзеянне спектакля адбываецца ў 1941 годзе. Кіраўнік СССР праклаў малодшую дачку, якая з'ехала ў Германію да свайго мужа Заратустры. Сёстры «схавалі» бацьку ў Інстытут Сербскага і ўжываюць у дачыненні да яго метады карнай медыцыны. Таму малодшая пачынае вайну і прыводзіць немцаў да Масквы.

Абодва спектаклі могуць выклікаць палярныя ацэнкі гледачоў: ад «апошняга слова ў мастацтве» да «поўнай бязглуздзіцы». Мо варта рызыкнуць і атрымаць уласныя ўражанні?

**Дзяніс Марціновіч**

# Славяне ў балцкім моры

Вынікі раскопак Крэўскага гарадзішча могуць перавярнуць нашы ўяўленні пра старажытную Літву.
Піша **Алег Дзярновіч**.

Крэва — знакавае месца ў беларускай гісторыі. З Крэўскага замка бярэ пачатак традыцыя мураванага абарончага дойлідства ВКЛ. Крэўскай уніяй пачынаецца супярэчлівы працэс інтэграцыі ВКЛ і Польшчы, які адзываўся паўтысячагоддзя. Але ёсць яшчэ адзін сюжэт, які інтрыгуе неабыякавых да гісторыі Беларусі — гісторыя Крэва як аднаго з палітычных асяродкаў даўняй Літвы, аднаго з цэнтраў этнічных і палітычных працэсаў наконадні ўзнікнення Вялікага Княства Літоўскага.

Памылкай будзе меркаваць, што даўняе Крэва знаходзілася ў сённяшнім месцы — вакол мураванага замка XIV ст. Выглядае, што якраз мястэчка ўзнікла вакол замка, пазней за яго. Але дзе знаходзілася першапачатковае Крэва?


Так выглядалі каралі з такіх падвесак.

Матрыца лілеяпадобнай падвескі ад караляў. Бронза, XII—XIII ст.

### Ранняе Крэва

Па шляху на Смаргонь, за два кіламетры на поўнач ад мураванага замка знаходзіцца Крэўскае гарадзішча. Яно візуальна вылучаецца нават сярод пагоркавых ландшафтаў Ашмянскага ўзвышша. Гарадзішча сягае 20 м вышыні, яго дзядзінец аточаны 5-метровымі землянымі валамі.

Крэўскае гарадзішча падобнае да гарадзішчаў Жалезнай эпохі пачатку нашай эры. Дзясяткі іх абжылі насельнікі паўночнага захаду Беларусі, якое вызнаюць як насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі. Пазней гарадзішчы сталі сховішчамі, куды людзі збягалася ў часы небяспекі. Насельніцтва іх было балцкім.

З мэтаю пошуку ранняга Крэва летам 2013 на гарадзішчы былі праведзены археалагічныя даследаванні. Ініцыятарам іх выступіў Мясцовы дабрачынны фонд «Крэўскі замак», які ўжо раней фінансаваў раскопкі на месцы Мікольскай царквы і Юравай гары ў Крэве, і пра што ўжо пісала «Наша Ніва».

### Матрыца славянскага ювеліра

Знаходкі былі нечаканымі. На Крэўскім гарадзішчы масава сустракаецца кераміка, зробленая на ганчарным коле, з традыцыйным лінейна-хвалістым арнаментам. Такі керамічны посуд вызначаюць як славянскі: даўнія балты не ведалі ганчарнага кола. У Крэве таксама былі знойдзены адметныя металічныя вырабы.

Напрыклад, у адным з шурфоў трапілася бронзавая лілеяпадобная падвеска. Так уяўлялася напачатку. Але пасля выявілася, што перад намі нават не сама падвеска, а матрыца, з выкарыстаннем якой рабілі такія падвескі. Тэхналагічна гэта выглядала так: на бронзавую матрыцу накладалася срэбная пласцінка, якая і адціскалася на матрыцы, паўтараючы яе форму і арнамент. Потым ціснёная палоска прыпайвалася да гладкай, і ўтваралася фігурная пустацелая лёгкая падвеска. Срэбныя падвескі можна было складаць у каралі. Крэўская матрыца сведчыць пра існаванне на гарадзішчы цэнтра вырабу такіх падвесак і караляў.

Падобныя падвескі знаходзілі ў багатых скарбах пад Кіевам, у складзе знакамітага Вішчынскага скарбу (Рагачоўшчына), схаванага, падобна, падчас мангольскага нападу ў сярэдзіне XIII ст. Але найбольш такіх падвесак знаходзяць на гарадзішчах крывіцкай Смаленшчыны і датуюцца XII—XIII ст.

Такія падвескі былі часткаю ўбору гарадскіх жыхарак.


Фрагменты шкляных бранзалетаў, XII — сярэдзіна XIII ст.


Фрагмент шклянога начыння з арабскай вяззю. Яшчэ адна загадка Крэўскага гарадзішча.

### Бранзалеты з Кіева

Сярод крэўскіх знаходак ёсць матэрыялы, якія маюць нават лепшае датаванне і наўпрост сведчаць пра гарадскі характар паселішча. Гэта шкляныя бранзалеты. Фрагменты такіх бранзалетаў рознага колеру сустракаюцца практычна ва ўсіх гарадах Усходняй Еўропы ў пластах XI—XIII ст. Яны былі ўлюбёным упрыгожаннем гараджанак. Сялянкі іх не насілі, мяркуючы па вясковых курганных пахаваннях.

Археолагі спачатку лічылі бранзалеты прадметамі візантыйскага імпарту: у Візантыі яны былі пашыраныя, а асноўны цэнтр вытворчасці знаходзіўся ў Сірыі. Цяпер даведзена, што бранзалеты выраблялiся і ў Кіеве. Але пасля таго, як манголы разграмілі Кіеў у 1240, вытворчасць спынілася. Крохкія бранзалеты хутка ламаліся на руках дзяўчын. Таму перыяд іх бытавання не сягае далей сярэдзіны XIII ст.

### Сведкі першых дэвальвацый

Апроч упрыгожанняў, якія сведчаць пра прысутнасць у даўнім Крэве славянаў, ёсць на нашым гарадзішчы і рэдкія знаходкі, якія сведчаць пра гандлёвы патэнцыял паселішча.

Вылучаецца знаходка двух брактэатаў — упершыню ў Беларусі. Брактэат — гэта манета з тонкай срэбнай пласцінкі, бітая штэмпелем толькі з аднаго боку на мяккай падкладцы. Выява выходзіла пукатай. Інакш, можна сказаць, гэта «аднабаковая» манета. У Германіі брактэаты з'явіліся ў першай палове XII ст. і хадзілі да сярэдзіны XV ст. Іх з'яўленне стала вынікам змяншэння ў канцы XI ст. вагі заходнееўрапейскага дэнарыя, які, захаваўшы ранейшы дыяметр, стаў таннейшым. Спачатку тонкія дэнарыі білі па-старому, але выявы праступалі на адваротныя бакі, скажаючы афіцыйныя знакі легітымацыі манеты. Для выпраўлення становішча дэнарыі (пфенігі, «фенікі»), тонкія, як фольга, сталі біць аднабаковымі.


Крэўскае гарадзішча.

Брактэаты як дробная разменная манета былі эфектыўным інфляцыйным інструментам. Раз на год (а ў Магдэбургу — двойчы) эмітэнт, ад імя якога білася манета (князь, біскуп ці горад) рабіў абмен грошай: вымаў з грашовага абарачэння брактэаты і замяняў іх на новыя. А старыя брактэаты-пфенігі прымусова дэвальваваліся на 25%. Фактычна, гэта быў прыхаваны падатак — «збор» на біццё манеты. Нямецкая даследчыца Маргрыт Кенэдзі лічыць, што такі метад прымусовай дэвальвацыі дапамагаў павялічыць спажыванне і скараціць назапашванні (людзям не было сэнсу збіраць і закопваць у скарбах грошы, якія абясцэньваліся, яны куплялі за іх тавары). Гэта стымулявала вытворчасць, вяло да росту дабрабыту насельніцтва і развіцця эканомікі.

Вось чаму пры сваёй масавасці брактэаты рэдка трапляюцца ў скарбах. Цяжка знайсці такія танюткія і крохкія манеты і падчас археалагічных раскопак.

Крэўскія манеты належаць да тыпу так званых «гузікавых» брактэатаў і ў цэлым укладаюцца ў перыяд XIII—XIV стст. Аналагічныя былі распаўсюджаны на тэрыторыі Нямецкага ордэна ў Прусіі, у польскім Паморʼі, у прыватнасці, іх білі гданьскія князі. Такім чынам, праз брактэаты мы маем доказы гандлёвых зносін жыхароў Крэва з Балтыйскім рэгіёнам.


Брактэаты XIII—XIV ст. – сведкі старажытных інфляцый.

Але ёсць яшчэ адна знаходка, якая непасрэдна ілюструе забеспячэнне гандлёва-грашовых апрацый — гэта вагавая манетная гірка, знойдзеная ў ніжнім (перадмацерыковым) пласце Крэўскага гарадзішча. Такія гіркі выраблялiся з каляровага металу (медзі ці бронзы) і сваёй формай нечым нагадвалі дыямант — крэўская мае 14 граняў, на некаторых з іх прастаўлены ўмоўныя пазначэнні вагі. Падобныя гіркі адносяцца да паўночнаеўрапейскай (скандынаўскай) сістэмы і з'яўляюцца не адзінкавай знаходкай у Беларусі.

### Славяне як габрэі XII ст.

Прыклад Крэва XII—XIII ст. можа скарэктаваць нашы ўяўленні пра даўнюю Літву.

Калі сысці са сферы бясплённых спрэчак, якой была першапачатковая Літва — балцкай ці славянскай, — то можна паразважаць пра шматстайны характар этнічных і сацыяльных узаемадзеянняў у Сярэднявеччы на гэтай запаветнай тэрыторыі Еўропы. Падобна, што Літва сапраўды вылучаецца з іншых балцкіх абшараў змяшанасцю насельніцтва.

Мы бачым Крэва як адзін з цэнтраў гістарычнай Літвы. На матэрыялах Крэўскага гарадзішча XII—XIII стст. робіцца зразумелым, што да эпохі ўтварэння Вялікага Княства Літва падыходзіла ўжо з пэўным цывілізацыйным здабыткам. Тут пачыналіся свае працэсы ранняй урбанізацыі і існавалі свае цэнтры з даволі развітай рамеснай вытворчасцю і актыўнымі замежнымі сувязямі. Але трэба зрабіць адну папраўку: урбанізаваным насельніцтвам Літвы былі, як выглядае, славяне.

Гэтае, магчыма, нешматлікае славянскае насельніцтва «першапачатковай» Літвы займала сацыяльную нішу, падобную на пазнейшую ролю габрэяў у гарадах Вялікага Княства ці немцаў у ранняй Польшчы: яны забяспечвалі сувязь са знешнім светам. Славянскае насельніцтва Крэва наладжвала гандлёвыя і тэхналагічныя кантакты найперш з суседняй Полацкай зямлёй. Калі высновы пацвердзяцца, гэта зменіць уяўленні пра эпоху ўтварэння ВКЛ. Старажытная Літва паўстане перад намі менш гамагеннай і больш інтэграванай у протабеларускі абшар.

Чым жа было Крэўскае гарадзішча ў XII—XIII ст.: славянскай факторыяй сярод балцкага насельніцтва, раннефеадальным замкам нобіля Літвы ці раннім горадам? Адказаць на гэтыя пытанні змогуць толькі далейшыя даследаванні.

Выходзіць новая кніга **Рыгора Барадуліна**.

*Гэта кніга пра мову, вакол мовы і з мовы сатканая. Народны паэт выклаў на старонкі не толькі гаворку, але і душу, лад мыслення сваіх родных мясцінаў. У кнігу ўключана і тое, што зазвычай не фіксуецца: ёсць не толькі слоўнік і народны каляндар, прыказкі ды хуткамоўкі, але і грозьбы з добрымі пажаданнямі, стравы і лекаванне, нават маналогі пра жыццё. «Вушацкі словазбор» неўзабаве выйдзе ў выдавецтве «Кнігазбор». Прадмову да яго напісаў Уладзімір Някляеў. Прапануем яе Вам.*

# Цуд

З мяне,
Як камяні з зямлі,
Вушацкія выходзяць словы.
Яны ў мяне ўвайшлі
Змалі,
Каб іх ні ўроцы не ўзялі,
Снягі не замялі,
Дубровы
З сабою словы не звялі
У свой апошні шлях,
Калі
Іх зводзіць пачалі на дровы.
Гудуць, нібы раі ў вуллі,
Вядуць, як дома, перазовы,
Ідуць раллёй, як жураўлі.
Яны ратаі й кавалі,
І хадакі ад мамы
Словы
Вушацкія.
Іх кожны крок
Мой бачыць слых,
Мой чуе зрок.

Рыгор Барадулін — чарадзей беларускай паэзіі.

Што такое паэзія? Сярод іншага — гэта выяўленне магчымасцяў мовы. Ці інакш: паэзія — гэта мова ў яе вяршынным выяўленні.

Рыгор Барадулін — чарадзей беларускай мовы.

Параўнайце тое, што мы чытаем у сённяшніх (беларускамоўных, якія засталіся) газетах, на беларускамоўных (якія ёсць) інтэрнэт-сайтах, з тым, што напісана ў «Руме», «Нерушы», «Вечаллі», іншых кнігах Рыгора Барадуліна. Не па змесце, а па лексіцы параўнайце, па граматыцы, сінтаксісе. Гэта не проста якасна адрозныя, гэта розныя мовы. І не толькі таму, што адна — празаічная, другая — паэтычная: яны розняцца так, як розніцца штучнае і натуральнае. Прычым, паэтычная мова (у канкрэтным выпадку мова Барадуліна), якая найдалей ад гутарковай, выглядае натуральнай, а мова празаічная (газетна-інтэрнэтная), якая да гутарковай найбліжэй — штучнай. Такой, нібы на ёй пішуць і размаўляюць не носьбіты мовы, а замежнікі, перакладчыкі. І такую няўклюдную, машынную (гуглаўскаю) мову ўсё большая частка яе карыстальнікаў пачынае ўспрымаць як натуральную — і як натуральную скарыстоўваць: менавіта на ёй многія аўтары пішуць сёння і прозу, і вершы.

Мова спрашчаецца. Машынізуецца, нібы спраўджваючы тэорыю «лінгвіста-марксіста» Н. Я. Мара: «Будучыня мовы — мысленне, якое вырастае ў вольнай ад прыроднай матэрыі тэхніцы».

Гэта датычыць не толькі нас — працэс сусветны. Шмат дзе (у тым ліку ў нас) ён накладаецца на працэс выцяснення роднай мовы — і абодва працэсы, супадаючы, паскараюць адзін аднаго.

Усё гэта небяспечна. Вельмі. І калі б толькі для літаратуры — такой бяды. Нават калі б толькі для мовы...

Прырода мовы, нягледзячы на тое, што быў такі выбітны мовазнаўца, як Вільгельм Гумбальт (як і прырода чалавека, нягледзячы на тое, што быў такі выбітны прыродазнаўца, як Чарльз Дарвін), дасюль застаецца загадкавай. У набліжэннях да разгадкі першынство належыць таму ж Гумбальту, які і па сёння — найбольшы аўтарытэт у мовазнаўстве. «Мова народа ёсць ягоны дух, і дух народа ёсць ягоная мова — цяжка ўявіць сабе нешта больш тоеснае» — вось асноўная канцэпцыя Гумбальта. Менавіта Гумбальт увёў паняцце «моўная свядомасць народа» і сцвярджаў, што, як чалавек (народ) стварае мову, гэтаксама і мова стварае чалавека (народ). Кожная мова апісвае вакол народа, якому яна належыць, круг, выйсці з якога можна толькі ў тым выпадку, калі ступіш у круг іншы.

...Іншы круг — іншая мова. Іншая мова — іншы народ.


ДЖОН КУНСТАДТЭР

Мы на мяжы кругоў. Пытанне ў тым, ці хочам мы застацца тымі, кім мы ёсць? Беларусамі. Еўрапейскім народам у еўрапейскай дзяржаве.

Сёння ўсё часцей можна пачуць: час нацыянальных дзяржаў прамінуў. На змену ім прыходзяць цывілізацыйныя дзяржавы, якія развіваюцца больш паспяхова. Найпершы прыклад — Кітай.

Добра, няхай так. Але я не чуў і не чытаў, каб хто-небудзь у цывілізацыйным Кітаі сказаў ці напісаў, што час адмовіцца ад нацыянальнай мовы.

Ніхто не даводзіць такога і ў Еўропе. Наадварот, вунь як французы з немцамі, нарвежцы з фінамі апантана ахоўваюць свае мовы, змагаюцца з іншамоўнымі ўплывамі! Ды ўсе народы ў сённяшнім свеце, у якім культура падмяняецца цывілізацыяй, менавіта з дапамогай нацыянальнай культуры і мовы змагаюцца за саміх сябе, і толькі беларусы супраць саміх сябе.

Чаму? Бо ў нас, як кажуць землякі Барадуліна, «добрыя галовы, толькі з патыліцы зачасаныя?..»

Вільгельм фон Гумбальт не для ўсіх аўтарытэт. Хоць бы па той прычыне, што не ўсе ў нас яго чыталі, а нехта нават не ведае, што такі быў. Для некага аўтарытэт Іосіф Сталін, які таксама, пра што нават у песні спяваецца, «у мовазнаўстве ведаў толк». Ён крытыкаваў вышэйзгаданага «лінгвіста-марксіста» Мара і вось з якіх пазіцый: «Мова адносіцца да грамадскіх з'яў. Яна нараджаецца і развіваецца з нараджэннем і развіццём грамадства. Яна памірае разам са смерцю грамадства».

Няма мовы — няма народа. У гэтым Сталін ведаў толк.

Хіба гэта не тыя ж кругі Гумбальта?.. Круг існавання — і круг знікнення.

Для таго, каб мы не зніклі, Бог пасылае нам такіх чараўнікоў, як Рыгор Барадулін, які і боскімі малітвамі, і паганскімі заклёнамі ў «Маўчанні перуна», «Міласэрнасці плахі», «Евангеллі» ад Мамы» аберагае нашу мову, а значыць, і народ. Тое самае ён робіць і ў «Вушацкім словазборы».

Я проста купаўся ў тысячах, як вушацкае возера Вечалле, беларускай мове, чытаючы рукапіс гэтай кнігі. Колькі слоў ані ў якіх слоўніках не зафіксаваных, якое мы да таго, што ёсць, яшчэ багацце маем! Крэў (вывернутае дрэва), начніцы (бяссонне), недамаўлянні (намёкі), пярэка (хто ўсім пярэчыць), руя (гайня, чарада). А як граюць, бліскаюць (бліснь дыясь!) гаваркія словы ў прыказках, прымаўках! «У сваёй хаце і качарга маці», «Грэх у мех, а сам наверх», «Язык у роце, як чорт у балоце», «Ён моўча, а дума воўча». Ці якія моўныя россыпы ў запісаных Барадуліным аповедах простых людзей проста пра жыццё: «Кішка ў кішку лезе ад голаду... Жыццё такое: хлеб — госць... Памяць мне заарала (забылася). Гэтак ён ваяваў: рылі акопы, а ён бабам у лапаты ручкі ўстаўляў... Уперад ён піў па дзелу, а пасля так... Хачу дамоў, як вады напіцца».

Я ўжо неяк пісаў, што Рыгор Барадулін нездарма называе сябе крывічом, бо ўвабраў у сябе ці не ўвесь крывіцкі дух, удыхнуўшы з ім усю мову крывіцкую. Ён адзіны беларускі паэт, які існуе толькі ў мове і выключна ў ёй. Існуе гэткім жа неверагодным цудам, якім сама мова існуе ў пабураным — альбо дасюль не створаным — беларускім свеце. І ў гэтым свеце Барадулін робіць тую працу, якую ў іншых светах робіць народ: моватварыльную. І яшчэ аберагальную, бліскуча скарыстоўваючы і тым самым захоўваючы тое, што народ ужо стварыў і за што некалі скажа дзякуй сваіму Паэту.

**Уладзімір Някляеў**

# Рыгор Барадулін. 3 кнігі

### Добрыя пажаданні

А багдай (хай) табе не вадзіць! (Каб не сурочылі.)
А хай вас даждҗом намочыць!
Багдай табе добра было!
Бадай цябе мані! (Каб не ашукалі).
Будзь здарова, як карова, і багата, як зямля, і пладліва, як свіння!
Дай Бог яму веку!
Дай жа Бог табе здароўя з жабіны прыгоршчыкі! (Усмешка.)
Дай табе Бог здароўя ў ручкі, у рожкі й паміж ног трошкі!
Каб б цябе жырам абкаціла і балесь не брала!
Каб беглі дні, а здароўе стаяла!
Каб Бог яе гадаваў!
Каб ты сто гадоў жыў і памёр на цёплай печы!
Каб яму было цёпла ў пекле!
Карай Бог павек! (Каб Бог добрае пасылаў часцей.)
Хай ёй здарова будзець!
Хай жа Бог дае Анэлі і ў касцеле, і ў пасцелі!

### Стравы

Бобу напрагуць перад печкай ці гароху белага напрагуць, дзеці наядуцца — і ўвесь сняданак.
Бульба ў панчошках — бульба ў шалупках, нячышчаная, звараная цалкамі. На вячэру бульба ў панчошках, кожны сам разуваець.
Вантрабянка — кілбаса. Кішка, напханая (накрапаная) вантробамі (ліверная). Вантрабянку ў капусце зварылі, наеліся, аж вочы пакруглелі.
**Гарбузянка** — варыва з гарбуза. **Гарбузянка** — яда нетрывалая, так, балмач смачная.
**Дзяронік, дзярбун, драчкі, суконнікі (посныя), таптуны** — блін ці сачэнь з дзяронай на тарцы бульбы. Хоць дзяронікам голад адгоніш. І дзярбун сала любіць. Бульба здаровая, як на драчкі.
**Іloўка, ілянка** — патраўка з крухмалу, забеленая малаком. Забяліла ілоўку, еш — не хачу. **Ілянка** — ежа да парогу.
**Калатуха** — варыва з мукі. Еш калатуху, пакуль гарачая.
Калі **самагонка** плачаць (на сценках пляшкі кроплі), значыць, дрэнная.
Камы. Марыя Рыгораўна тлумачыла: «Гарох уперад зварыцца, тады бульбу кладуць, запраўляюць салам, алеем, адцэджваюць. Боб намочыш, аблупіш яго, як намокнець, і бульбу после пакласці й зварыць». Харашы камы ў пост.
**Квашаніна** — сцюдзень, хала-дзец. Еш квашаніну, пакуль не раз'ехалася.
**Кіндзюк** — трыбух, начынены мясам, салам, вантробамі. Кіндзюк павесілі сівярыцца на гарэ (гарышчы), летам як знойдзем.
**Лянуха** — варыва са свежай капусты, часта бялёнае. Лянуха — не свята для бруха.
**Мурцоўка**. У міску крышыцца цыбуля, хлеб, соль, і ўсё заліваецца вадой. Па мурцоўцы не памарцуеш, а свайго падрабяззя не ўчуеш.
**Перамень** — клёцкі з мясам (блізкае да рускіх пяльменяў). А на Дзяды ў нас перамень.
**Перапечка** — пшонная пульхная булачка. Дзеўка, як перапечка, так і цягнець за азадачак ушчыкнуць.
**Печанёўка** — кілбаса, у асноўным з пячонкі і лёгкага. Печаннё, леганнё перакруціш, і печанёўка гатова.
**Пражонка**. У чыгунку пражэцца (тушыцца) сала, кілбаса, скабінка (рабрына). У яе мачаюць бліны ці закручваюць у блін. Каляд-ны стол без пражонкі, як мужык без жонкі.
**Путра**. Аржаную муку размяшаць, да вечара засалодзіцца, зробіцца салодкай, а пасля ў дзежку, дзе хлеб, трэба ж, каб яна ўкісла (латышскае putra.)
**Сала** любіць, каб у цеснаце і ў солі, каб адно каля аднаго ляжала. Калі няма марозу, сала слізнець.
**Сарокі**, ці клёцкі з душамі. Бульбяныя клёцкі, унутры «душа» — сала ці сечанае мяса.
**Сачэнь** — печыва з бульбы й мукі са скваркамі. Як з'ясі сачэнь, будзеш сыт цэльны дзень.
**Хлебнічак** — печыва. Хлебнічкі пякуць з макам — рыхлыя такія булкі перад печчу.
**Хрушчы** — праснакі, выпечаныя да хрусту, сухія. Аржаных хрушчоў напякуць, у істопку пакладуць.

## ХАКЕЙ

### «Зубры» супраць «мамантаў»

Працягваецца рэгулярны чэмпіянат КХЛ па хакеі. 2 кастрычніка «Дынама» прыме ў «Мінск-Арэне» ханты-мансійскую «Югру» (іх яшчэ называюць «Мамантамі»). Пачатак а 19. 4 кастрычніка — омскі «Авангард». Пачатак а 19.

## ФУТБОЛ

### БАТЭ — «Дынама»

У чэмпіянаце Беларусі па футболе засталося згуляць не так шмат матчаў. На выхадных адбудзецца 26-ы тур.

**5 кастрычніка** сустракаюцца:
«Нафтан» (Навапалацк) — «Славія» (Мазыр);
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Нёман» (Гродна);
БАТЭ (Барысаў) — «Дынама» (Мінск).

**6 кастрычніка:**
«Мінск» — «Дынама» (Брэст);
«Шахцёр» (Салігорск) — «Гомель»;
«Белшына» (Бабруйск) — «Дняпро» (Магілёў).

## ІМПРЭЗЫ

### «Талькаўскі фэст»

Сёлета свята, што традыцыйна праводзіцца ў Пухавіцкім раёне, адбудзецца ў суботу, 5 кастрычніка. Запрашаем аматараў народных і бардаўскіх песень, танцаў, гульняў.

Фэст будзе прысвечаны гадавіне паўстання 1863 года. Збор а 12 гадзіне каля талькаўскага клуба.

### Фестываль Юрыя Башмета

**2 кастрычніка а 19-й у Беларускай дзяржаўнай філармоніі** адкрыццё VIII Міжнароднага фестывалю Юрыя Башмета. Пад гукі Камернага ансамбля «Салісты Масквы» пад упраўленнем Юрыя Башмета народны артыст Расіі Канстанцін Хабенскі чытае вершы Маякоўскага.

**4 кастрычніка а 19-й у тамсама** — «Credo» Кшыштафа Пендэрэцкага.

**5 кастрычніка а 18.30 на плошчы каля гарадской ратушы** — канцэрт ансамбля старажытнай музыкі «Хортус Музікус» (Эстонія).

**6 кастрычніка а 19-й у Беларускай дзяржаўнай філармоніі** — праграма «Салісты і дырыжоры свету».

**7 кастрычніка а 19-й тамсама** — сольны канцэрт піяніста Мікалая Луганскага (Расія).

**8 кастрычніка а 19-й** — канцэрт лаўрэатаў Міжнароднага конкурсу імя П.І.Чайкоўскага.

### Манхэтэнскі фестываль кароткаметражнага кіно

**3—4 кастрычніка а 19-й, 5—6 кастрычніка а 17-й у Мінскім Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў (Чкалава, 7)** пройдуць конкурсныя паказы Манхэтэнскага фестывалю кароткаметражнага кіно. У праграме 2013 года — фільмы з Аўстраліі, Францыі, Фінляндыі, ЗША, Ірландыі і Англіі.

### ЖывыГукOn-line

**6 кастрычніка а 19-й у «Юле» (Сурганава, 26)** — фэст «ЖывыГукOn-line». Пераважная частка ўдзельнікаў — маладыя амбіцыёзныя каманды, якія ўжо добра граюць і гучаць, але пакуль яшчэ не маюць магчымасці самім сабраць публіку.






### Маляванкі і макаткі

У сталічнай мастацкай галерэі Шчамялёва (пр.Ракасоўскага, 49) ідзе выстава «З Вілейкі — з любоўю». Экспануюцца прадметы народнага побыту з фондаў Вілейскага краязнаўчага музея. Асноўная частка экспанатаў — маляваныя дываны. Выстаўленыя таксама малюнкі на шкле і макаткі (малюнкі на невялікіх кавалках тканіны), даматканы абрус з набіваным малюнкам, ручнік, посцілкі, адзенне...

Першым зацікавіўся маляванымі дыванамі (маляванкамі) мастацтвазнаўца Міхась Раманюк, даследчык беларускага народнага строю. Да 1980-х маляванкі лічыліся праявай кічу ў народным мастацтве і амаль не збіраліся.

Цяпер інсітнае мастацтва ўвогуле і маляваныя дываны ў прыватнасці становяцца ўсё больш папулярнымі ў Беларусі. У Польшчы ж матывы маляванак шырока выкарыстоўваюцца для вырабу сувеніраў, выступаюць як брэнд краіны.

Маляваныя дываны часта вешалі над ложкам. Макаткі вешалі для аздобы на сцены хаты, але макаткі з рэлігійным сюжэтам маглі вісець і на покуці.

На выставе экспануецца адна маляванка на чорным ваўняным сукне. Дыван вылучаецца захаванасцю фарбаў, яркасцю. Сукно каштавала даражэй за лён, гэты дыван быў вясельным падарункам заможнага селяніна дачцэ.

Старыя людзі згадваюць, што дываны на Вілейшчыне малявалі не на замову, але майстры маглі хадзіць па вёсках і з гатовымі вырабамі, спрабуючы іх прадаць.

Экспануюцца і малюнкі на шкле. Тут і букеты, і прыўкрасныя дамы, і абразы, і інсітная копія карціны Васняцова «Тры асілкі». Для Беларусі, у адрозненне ад Польшчы, не характэрныя маляваныя на шкле абразы. Пераважаюць раслінныя і зааморфныя матывы, партрэты.

Малюнкі на шкле маглі выкарыстоўваць у якасці падарунка, замест паштоўкі: на адным з выстаўленых малюнкаў зроблены віншавальны надпіс.

Абрус з набіваным малюнкам, тканы ўзорам «у дымкі», добра адлюстроўвае развіццё народнага мастацтва ў часе. Такія абрусы сустракаюцца па ўсёй Беларусі без малюнка. Можна ўявіць сабе, як гаспадыня вырашыла «па-моднаму» ўпрыгожыць сатканую раней ці атрыманую ў спадчыну рэч.

Маляванкі на Вілейшчыне перасталі замаўляць майстрам у другой палове 1960-х, калі на іх месца заступілі танныя прамысловыя вырабы. Аднак яны ўпрыгожваюць некаторыя хаты і да сённяшняга дня. Працягнецца выстава да 19 кастрычніка.

**Алена Ляшкевіч**

## КАНЦЭРТЫ

### Каста

**5 кастрычніка а 19-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — выступае гурт «Каста».

### Sounduk

**10 кастрычніка а 19-й у Маладзёжным тэатры эстрады** — выступае Sounduk.

### Стэнлі Джордан

**11 кастрычніка а 20-й у джазклубе «Спяваючыя фантаны» (Кастрычніцкая, 5)** — канцэрт ф'южн-гітарыста Стэнлі Джордана.

## ВЫСТАВЫ

### Беларусь у Антарктыцы

**Да 20 кастрычніка ў гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава, прысвечаная сучаснаму беларускаму вывучэнню Антарктыды. У экспазіцыі можна пабачыць экіпіроўку палярнікаў, прадметы побыту, якія выкарыстоўваюцца ў экспедыцыях, падводныя прылады, прыборы навігацыі, калекцыю антарктычных мінералаў.

### Паўстанне 1863-1864

**Да 6 кастрычніка ў гістарычным музеі** працуе выстава, прысвечаная 150-годдзю паўстання 1863-1864. Экспазіцыя складаецца з дзвюх частак. На першай прэзентуюцца рукапісныя і друкаваныя дакументы, а таксама іканаграфічныя матэрыялы і фотаздымкі з польскіх архіваў, а другі раздзел складаецца з матэрыялаў, падрыхтаваных Нацыянальным гістарычным музеем Беларусі.

### Падарожжа ў часе

**Да 26 кастрычніка ў Нясвіжскім палацы** працуе выстава «Падарожжа ў часе», на якой можна пазнаёміцца з калекцыямі камінных, насценных, настольных, кішэнных і наручных гадзіннікаў XVII-XX стст.

## ТЭАТРЫ

### 3 кастрычніка

**Оперы і балета** — «Чароўная флейта»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

### 4 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

### 5 кастрычніка

**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Юнага гледача** — «Беласнежка і сем гномаў»

### 6 кастрычніка

**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»

### 8 кастрычніка

**Купалаўскі** — «Офіс»
**Оперы і балета** — «Серэнада. Шэсць танцаў»

### 9 кастрычніка

**Оперы і балета** — «Серэнада. Шэсць танцаў»

### 10 кастрычніка

**Оперы і балета** — «Набука»

## КІНО

### На зломе

Жасмін
Драма
**Рэжысёр:** Вудзі Ален
**У ролях:** Кейт Бланшэт, Алек Болдуін, Луі С. К., Піцер Сарсгаард, Бобі Канавалі
ЗША, 98 хв.

Страціўшы багацце і мужа-бізнэсмэна, Жасмін (Кейт Бланшэт) пераязджае з Нью-Ёрка да сястры ў Сан-Францыска. Звыклая да раскошы, яна спрабуе пачаць новае жыццё: знайсці працу, аднавіць вучобу. Але мінулае не хоча так проста адпускаць Жасмін, яе нервы не ў парадку, яна размаўляе сама з сабою, успамінаючы багемнае жыццё. Да таго ж яна хоча вярнуць і каханне, і багацце, няхай і з іншым мужчынам.

45-ты фільм Вудзі Алена даследуе жыццё на зломе, пераход з аднаго сацыяльнага пласта ў іншы. Увесь экранны час глядач назірае, як спраўляецца з гэтым маладая жанчына. Вымушаная сутыкнуцца з іншым светам, сваё звыклае жыццё яна, з аднаго боку, страціла па сваёй віне, а з другога — хіба жонка вінаватая ў фінансавых махінацыях мужа? Стужка трымаецца на акцёрскім геніі Кейт Бланшэт. Гісторыю сваёй гераіні яна расказвае з усёй самаадданасцю і драматызмам. Адно застаецца незразумелым: ці ўдалося справіцца Жасмін з дэпрэсіяй і стаць на ногі зноўку? Мабыць, адказ ведае толькі Вудзі Ален.

**Настасся Уласава**



# «Цмокі-Мінск»: Каманда стала мацнейшай

На наступным тыдні пачынаецца **новы сезон** для баскетбольнага клуба «Цмокі-Мінск».

8 кастрычніка беларусы ў Рызе ў рамках Адзінай лігі ВТБ згуляюць з мясцовым ВЭФам. А потым будуць дзве хатнія сустрэчы: 14 кастрычніка — «Чырвоны Кастрычнік» (Валгаград), 20 кастрычніка — «Няптунас» (Клайпеда).

Гульні традыцыйна будуць адбывацца на «Мінск-Арэне». Пачатак у выходныя дні а 16. У будні а 19. Абанемент на ўсе 12 матчаў будзе каштаваць 120-150 тысяч рублёў. Білеты на асобныя матчы — у раёне 20-25 тысяч.

### Легіянеры

У міжсезонні «Цмокі» істотна змянілі склад. Перш за ўсё каманда традыцыйна пазбавілася ўсіх легіянераў.

Цэнтравога Атэра Маджока не вельмі шкада. Хоць гэты аўстраліец суданскага паходжання і стаў любімцам мінскай публікі, але чакаць ад яго вырашэння звышзадач не выпадала. Кожнае ягонае не траплянне ў кошык гледачы сустракалі смехам: «Ну што зрабіць — гэта ж Маджок».

Т'еры Браўн меў досвед гульняў у Нацыянальнай баскетбольнай асацыяцыі («Х'юстан», «Кліўленд», «Лейкерс»). У НБА абы-каго не бяруць. І калі ў Браўна каціла, то спыніць гэтага хлапчыску было вельмі цяжка. Праўда, вельмі часта Браўн на пляцоўцы шчыра валяў дурня.

Ну, і літовец Відас Гінявічус быў не самым феерычным гульцом каманды. Але коўдру на сябе не цягнуў, як Браўн. Выконваў мноства чарнавой працы, быў адным з тых, чыя гульня ніколі не падала ніжэй пэўнай планкі. На Гінявічуса можна было спадзявацца.

Сёлета легіянераў у «Цмоках» паболела: замест трох атрымалі пяцярых (чатыры амерыканцы і балгарын). Амерыканцы прайшлі на радзіме праз універсітэцкія лігі, а потым гулялі ў самых экзатычных чэмпіянатах — ад Фінляндыі да Венесуэлы. Якога яны ўзроўню, пабачым ужо ў пачатку сезона.




**«Цмокі-Мінск»**

Баскетбольны клуб, заснаваны ў 2006 годзе. Доўгі час выступаў пад назвай «Мінск-2006». Перайменаваны ў «Цмокі» ў мінулым годзе. Як адзначыў Аляксандр Куль, «цмокаў» можна лічыць першымі беларускімі «баскетбалістамі», бо вельмі часта на выявах яны трымаюць у лапах камяні, як баскетбольны мяч. Чэмпіён Беларусі апошніх пяці гадоў.



### Страта Кудраўцава

Лідар «Цмокаў» Аляксандр Кудраўцаў перабраўся ў больш сонечныя краі. Прынамсі бліжэйшы сезон беларус будзе абараняць колеры турэцкага «Газіянтэпа». «У Турцыі бачу перспектыву: калектыў падабраўся добры, каманда ўдзяляла ўвагу еўракубкам, моцны чэмпіянат», — матывацыя Кудраўцава.

З беларускіх набыткаў звяртае на сябе ўвагу вяртанне Віталя Лютыча. Гэты 21-гадовы хлопец апошнія тры гады правёў у літоўскім «Шаўляі». На сённяшні момант Лютыч з'яўляецца ці не самым перспектыўным беларускім баскетбалістам. Дарэчы, гэта малодшы брат лідара беларускамоўнага рок-гурта BN Алеся Лютыча.

### Кайрыс

Змяніўся таксама галоўны трэнер «Цмокаў». Цяпер былы рулявы Андрэй Криванос будзе дапамагаць у працы літоўскаму спецыялісту Дональдасу Кайрысу. Яму ўсяго 36 гадоў. Аднак нягледзячы на ўзрост, літовец паспеў шмат дзе папрацаваць: «Лакаматыў-Кубань» (Расія), «Дняпро-Азот» (Украіна). Праўда, поспехаў нідзе не дасягаў.

На чале «Цмокаў» хацелі бачыць іншага літоўца — трэнера жаночай зборнай Беларусі па баскетболе Рымантаса Грыгаса, — але ён адмовіўся ад прапановы.

У першы сезон у Адзінай лізе ВТБ «Цмокі» атрымалі адну перамогу. Летась — тры. Спадзяёмся, што ў гэтым годзе перамог будзе яшчэ болей.

**Зміцер Панкавец**

# Куль: Ніхто не павінен хадзіць на баскетбол «добраахвотна-прымусова»

Дырэктар цэнтра эканамічнага развіцця і **спартыўнага маркетынгу** «Цмокаў» Аляксандр Куль адказаў на некалькі пытанняў «Нашай Нівы».

**«Наша Ніва»: Чым будзеце прываблiваць людзей на трыбуны?**

**Аляксандр Куль:** У першую чаргу запаўняльнасць будзе залежыць ад таго, як гуляе каманда. Гледзячы па міжсезонцы, як «Цмокі» ўкалваюць, як гуляюць, можна спадзявацца на годны вынік. І калі перамогі будуць, то і нашаму аддзелу будзе працаваць лягчэй. А так ніякі ровар мы не вынаходзім. Будзем зацягваць людзей на трыбуны рэкламай, інфармацыяй у СМІ пра клуб і гульцоў. Таксама сёлета з'явіцца маскот (вядома, цмок), які будзе забаўляць публіку, з ім можна сфатаграфавацца.

**«НН»: На матчах хакейнага «Дынама» можна выпіць піва. На «Цмоках» нельга. Ці зменіцца нешта?**

**АК:** Адносна піва пытаюцца вельмі часта. Адкажу, што хутчэй «не», чым «так». Наколькі я разумею, хакейнае «Дынама» — гэта такое выключэнне. Што датычыць крамак харчавання, то яны будуць працаваць па-ранейшаму. Што тычыцца кавярняў на «Мінск-Арэне», каб яны працавалі, патрэбна публікі не менш, за 4 тысячы чалавек. Будзе столькі людзей — кавярні запрацуюць.

**«НН»: А на якую аўдыторыю разлічваеце?**

**АК:** На самую максімальную. Канечне, разумею, што сходу касмічных лічбаў не будзе. Калі на першыя гульні сезона прыйдзе 2-3 тысячы чалавек, то буду задаволены. У канцы сезона разлічваю на лічбу ў 6—7 тысяч.

**«НН»: А што з прадукцыі з выявай «Цмокаў» можна будзе набыць?**

**АК:** Нейкая мінімальная сувенірка падрыхтаваная, але гэтага малавата. Мы троху абмежаваныя ў сродках. Дакладна будуць байкі, бейсболкі, магніты. Яшчэ мне хацелася б бачыць рамяні, кашалькі, заплечнікі ды шмат чаго іншага.

**«НН»: Апошні сезон «Цмокі» не займаліся загонам на трыбуны школьнікаў для масавасці. Тут нічога мяняць не будзеце?**

**АК:** Гэта наша прынцыповая пазіцыя. Ніхто не павінен хадзіць на баскетбол «добраахвотна-прымусова». Чалавек павінен ісці на відовішча, якое яму цікавае, атрымліваць ад гэтага асалоду, а не таму, што так камусьці трэба запоўніць трыбуны.

**«НН»: Не зусім да вас пытанне, але каманда стала мацней шай у параўнанні з мінулым сезонам?**

**АК:** Больш чым упэўнены ў гэтым.

**Гутарыў ЗП**

**Расклад хатніх гульняў**

14 кастрычніка. 19:00. «Цмокі» — «Чырвоны Кастрычнік» (Валгаград);

20 кастрычніка. 16:00. «Цмокі» — «Няптунас» (Клайпеда);

3 лістапада. 16:00. «Цмокі» — ЦСКА (Масква);

17 лістапада. 16:00. «Цмокі» — «Астана»;

1 снежня. 16:00. «Цмокі» — «Хімкі»;

14 снежня. 16:00. «Цмокі» — «Чырвоныя Крылы» (Самара);

19 студзеня. 16:00. «Цмокі» — ВЭФ (Рыга);

16 лютага. 16:00. «Цмокі» — «Азоўмаш» (Марыупаль);

16 сакавіка. 16:00. «Цмокі» — «Трыумф» (Люберцы).

**Адзіная ліга ВТБ**

Баскетбольны турнір, створаны ў 2008 годзе. Аб'яднаў у сабе наймацнейшыя клубы Усходняй і Паўночнай Еўропы. На сённяшні дзень у ВТБ гуляюць каманды з Расіі, Беларусі, Украіны, Літвы, Казахстана, Латвіі, Эстоніі, Польшчы і Чэхіі. Дзейны чэмпіён — маскоўскі ЦСКА. Прэзідэнт Адзінай лігі ВТБ — генерал Сяргей Іваноў, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Расіі.



## Сцісла

### «Беларусь-5» запрацаваў у тэставым рэжыме

Спартыўны канал Белтэлерадыёкампаніі пачаў вяшчанне 1 кастрычніка. Аднак гледачы ўбачаць яго толькі ў лістападзе 2013. «Беларусь-5» будзе трансліявацца праз кабельных аператараў. Іх паслугамі карыстаюцца каля 2 мільёнаў беларусаў — кожны пяты. На канале будуць паказваць беларускія спаборніцтвы, а ліцэнзія на трансляцыю замежных спартыўных падзей закупленая ў аднаго з расійскіх ці ўкраінскіх каналаў. Апроч таго, на «Беларусь-5» пакажуць англійскі футбольны чэмпіянат.

### Львоўскі стадыён дыскваліфікаваны на чатыры гады

ФІФА правяла расследаванне аб расісцкіх выкрыках і дзеяннях заўзятараў падчас матча Украіна — Сан-Марына на «Арэне-Львоў». Зборнай забаранілі гуляць на стадыёне да канца адборачнага турніра на Чэмпіянат свету—2018. Украінцы абскарджваюць прысуд. Яны даводзяць, што дэлегаты ФІФА перабольшылі нацысцкую сімволіку з сімволікай УПА.

### «Чыжоўка-Арэна» зменіць назву?

Як заявіў генеральны дырэктар ХК «Юнацтва» Эдуард Зотаў, назва новага хакейнага комплекса будзе прададзена. Сярод верагодных варыянтаў называецца «МАЗ-Арэна».

### Хакейнае «Дынама» на апошнім месцы

Пасля дзесяці гульняў у Кантынентальнай хакейнай лізе ў мінскага «Дынама» дзве перамогі, сем паразаў у асноўны час, адна параза ў авертайме. Паменшылася і наведвальнасць «Мінск-Арэны» на хакейных матчах. «Дынама» займае апошняе месца ў турнірнай табліцы Заходняй канферэнцыі.

### Малады беларус адмовіўся гуляць за зборную

19-гадовы футбаліст Міхаіл Бабічаў адмовіўся гуляць за юніёрскую зборную Беларусі. Яго набыў казанскі клуб «Рубін», таму хлопец спадзяецца атрымаць расійскае грамадзянства і гуляць за зборную гэтай краіны. Бабічаў — сын дырэктара Пастаўскай мэблевай фабрыкі, заснавальніка пастаўскай футбольнай акадэміі.

**ЯМ**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Знакаміты канадскі Cirque du Soleil зладзіў чатырохдзённыя гастролі ў Мінску. Феномен Cirque du Soleil захапляе, асабліва калі ўлічыць, што ў 1984-м усё пачыналася ледзь не як вулічны спектакль з удзелам акрабатаў і хадулістаў. Ёсць у трупе гэтага цырка і беларусы.**



**Карону «Міс Свету» атрымала 23-гадовая філіпінская актрыса Меган Янг. Конкурс прайшоў у Інданезіі. Праз пратэсты ісламістаў прыйшлося адмовіцца ад дэфіле ў купальніках.**




**На футбол у Барысаве запрашаюць вось такія сімпатычныя беларускамоўныя афішкі, развешаныя па ўсім горадзе. Праўда, БАТЭ ўсё ж саступіў «Тарпеда».**



**Кітайцы мыюць помнік Мао Цзэдуну ў гонар дзяржаўнага свята — Дня ўтварэння КНР. 1 кастрычніка рэспубліцы споўнілася 64 гады.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Адзінай крынічанькай дзяржаўнай уладачкі і носьбітам суверэнітэтца ў Рэспублічцы Беларусечцы з'яўляецца наро-дзец. Народзец ажыццяўляе сваю ўладачку непасрэднень-ка, праз прадстаўнічыя і іншыя органцы ў формачках і межачках, вызначаных Канстытучанькай.

Арт.3 Канстытучанькі 1994 (са зменачкамі і дапаўненнечкамі, прынятымі 24.11.1996, 17.10.2004, 28.09.2013).

* * *

Баўмгертнера пратрымалі месяц у СІЗА КДБ, бо не маглі знайсці здымную кватэру.

* * *

У аптэчцы новага БелАЗа можа аднаначасова стацыянарна лячыцца 8 чалавек.

* * *

Аўтар словаў «як лёгка, адабраць цукерку ў дзіцяці» проста ніколі не спрабаваў гэта зрабіць у жыцці.

* * *

Наглядзеўшыся фільма «300 спартанцаў», трое гопнікаў на «Кастрычніцкай» тры гадзіны стрымлівалі праход на эскалатар.

* * *

Тры дні назіраў за мурашнікам. Ні планёрак, ні нарадаў. І галоўнае — усе працуюць!

* * *

Асноўная функцыя мезенца на назе — праверыць, ці ўся мэбля ў кватэры на месцы.

* * *

Найлепшы спосаб захаваць грошы — нікому не казаць, што яны ў цябе ёсць.

## «НН» сто гадоў з вамі

**У канцы канцоў еўрапейскія дзяржавы** прызналі рэспубліканскі лад у Кітаі. Кітайцы прыступілі да выбараў прэзідэнта і выбралі Юаншыкая. Таго самага, каторы не мала памог перакуліць у Кітаі стары лад.

**«НН». №40. 1913.**

**Дажынкі ў маленькім Багдадзе.** Ад ранку ў суботу стомленыя Пружаны ачунялі, падбадзёрыліся. Бар, які я ўсё жыццё памятаю пад назвай «Палескія легенды», нечакана пераўтварыўся ў «Палескія паданні». Асабліва сімпатычныя лозунгі мелі гандляры мясам з Камянецкага раёна.

Учора бегаў парсючок,
Сёння — добры шашлычок.

І сапраўды, шашлыкамі Пружаны прапахлі на некалькі месяцаў наперад.

**«НН». №37. 2003.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8004. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 02.10.2013.
Замова №4359.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

9 771819 161008 13037